

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

**BELARUSIAN DIGEST**

**ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 2(109) Сакавік 2003 March Год выд. 11.


# Зварот

**Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па святкаванні 85-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі**

Шаноўныя суайчыннікі!

25 сакавіка спаўняецца 85 гадоў з дня абвяшчэння дзяржаўнай незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

25 сакавіка 1918 г. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, выконваючы волю I Усебеларускага кангрэса 1917 г. і маючы на гэта ўсе паўнамоцтвы, сваёй Трэцяй Устаўной граматай абвясціла Беларусь дэмакратычнай і незалежнай дзяржавай. Ад гэтага часу дзень 25 сакавіка з'яўляецца нацыянальным святам беларускага народа -- Днём Волі, Днём Незалежнасці.

Утварэнне БНР адкрывала нам шлях у сям'ю вольных і самастойных дзяржаў Еўропы і свету. Лепшыя сыны і дочкі Бацькаўшчыны падтрымалі абвяшчэнне незалежнасці БНР. Радай і ўрадам БНР за кароткі тэрмін была праведзена вялікая работа па ўсталяванні дзяржаўных інстытутаў у Беларусі. Урад прыняў пастанову пра дзяржаўнасць беларускай мовы і абавязковае яе выкарыстанне ў афіцыйных дакументах. Пачалі адкрывацца беларускія школы, былі прыняты захады для стварэння нацыянальнага універсітэта, выходзілі беларускія газеты і часопісы, працаваў беларускі нацыянальны тэатр. Беларуская ўлада ўзяла пад сваю кампетэнцыю прамысловасць, гандаль і сацыяльную апеку. Урад БНР разгарнуў актыўную знешнюю палітыку і дамогся фармальнага і фактычнага прызнання БНР шэрагам краін.

Але ў канцы 1918 г. тэрыторыя Беларусі была занята войскамі савецкай Расіі і на нашай зямлі была ўстаноўлена савецкая ўлада. І ўсё ж бальшавікі вымушаны былі лічыцца з імкненнем беларусаў да ўтварэння самастойнай дзяржавы. Таму, у процівагу БНР яны абвясцілі БССР з фіктыўным суверэнітэтам. Кіраванне БССР праводзілася дырэктывамі з Масквы, адбывалася бязлітаснае вынішчэнне асноў нацыянальна-культурнага, гаспадарчага і фізічнага існавання беларусаў. Мэтанакіравана беларуская мова выцяснялася з афіцыйнага ўжытку і навучальных устаноў. Вынішчаліся і высылаліся ў лагеры дзеячы беларускага адраджэння -- палітыкі, вучоныя, пісьменнікі, настаўнікі, рабочыя, сяляне, святары, вайскоўцы, былі рэпрэсаваны цэлыя пласты беларускага грамадства.

Аднак ідэі незалежнасці і справядлівасці не перасталі жыць у нашым народзе. Менавіта Акт 25 сакавіка 1918 г. стаў узорам пры аднаўленні незалежнасці Беларусі ў 1991 г., а сімвалы БНР -- герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг – зацверджаны дзяржаўнымі сімваламі краіны. Але нацыянальна-адраджэнскаму руху не ўдалося дамагчыся незваротнасці распачатых палітычных і эканамічных змен.

Ад 1994 г. антыбеларускія сілы, якія знаходзяцца ва ўладзе, пры дапамозе Масквы пачалі наступ на ўсё нацыянальнае. Знішчаецца духоўны патэнцыял нацыі. Ідзе планамерны наступ на беларускую мову і культуру. Наша краіна апынулася ў ізаляцыі ад крыніц інвестыцый і сучасных тэхналогій. Няспынная інфляцыя і пастаянны рост цэн прывялі да жабрацкага стану большасць насельніцтва. Апошнія дзесяць гадоў адбываецца няўхільнае змяншэнне насельніцтва. Расійскія капіталістычныя канцэрны пачалі захоп беларускай маёмасці. Над Беларуссю навісла пагроза страты незалежнасці, захопу яе тэрыторыі і ўключэння ў склад Расіі. Збанкрутаваны рэжым ідзе на ўступкі расійскім імперыялістычным колам.

Аднак незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны, замацаваны Канстытуцыяй, не можа быць абмежаваны або скасаваны праз дамовы дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум. Усебеларускі з'езд за незалежнасць, які адбыўся 29 ліпеня 2000 г., у сваіх рашэннях пацвердзіў усе асноўныя пастулаты БНР і курс на захаванне дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі.

Незалежнасць з'яўляецца гарантыяй існавання Беларусі як нацыянальнай дэмакратычнай дзяржавы, гарантыяй станаўлення грамадзянскай супольнасці, абуджэння і ўмацавання нацыянальнай самасвядомасці, гарантыяй адраджэння беларускай мовы, культуры, эканомікі. Выйсцем з сённяшняй крызіснай сітуацыі можа быць толькі ўтварэнне канстытуцыйным шляхам улады, якая будзе няўхільна абараняць нацыянальныя інтарэсы, імкнуцца інтэграваць Беларусь у еўрапейскую эканамічную прастору.

Пагроза, што навісла над незалежнасцю Беларусі, павінна аб'яднаць усіх грамадзян краіны, усе палітычныя сілы, якія выступаюць за дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь.

Мы заклікаем грамадзян Беларусі шчыра і актыўна адсвяткаваць вялікую дату -- 85-я ўгодкі незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Жыве Беларусь!

Аргкамітэт:
Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ,
Сяргей ЗАКОННІКАЎ,
Вольга ІПАТАВА,
Рыгор БАРАДУЛІН,
Генадзь БУРАЎКІН,
Радзім ГАРЭЦКІ,
Ніл ГІЛЕВІЧ,
Зінаіда БАНДАРЭНКА,
Уладзімір БАСАЛЫГА,
Янка БРЫЛЬ,
Васіль ЗУЁНАК,
Уладзімір КОНАН,
Мікола КРУКОЎСКІ,
Леанід ЛЫЧ,
Валеры МАЗЫНСКІ,
Адам МАЛЬДЗІС,
Мікола МАРКЕВІЧ,
Алесь ПАШКЕВІЧ,
Аляксей РАГУЛЯ,
Аляксей САЛАМОНАЎ,
Георгі ШТЫХАЎ.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## *25-га САКАВІКА 1918 – 2003*



### Акцыя, прысьвечаная 85-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, пройдзе 25 сакавіка ў Менску.

На чарговым паседжаньні Управы Партыі БНФ, было вырашана, што ўрачыстае сьвяткаваньне 85-х угодкаў абвешчаньня Дня незалежнасьці пройдзе на вуліцах Менску 25 сакавіка. Ад Партыі БНФ у аргкамітэт па правядзеньні акцыі будзе прапанавана ўзгодненае партыйнае рашэньне: збор у 17:30 ля Акадэміі навук і шэсьце да помніку Янку Купалу.

**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**Пётр Садоўскі** /Народная Воля/

# Хто перашкаджае "зрастаньню" Еўропы?

Рэцэнзія-роздум

Краінай, якая перашкаджае зрастанню Еўропы, нямецкі палітолаг д-р Хайнц Цімерман называе, як ні крыўдна, нашу Беларусь.

Беларусь -- краіна-антымадэль, -- вось ягоная формула. Так ён піша ў брашуры "Супярэчлівыя ўзаемадачыненні Расіі і Беларусі ў еўрапейскім кантэксце", якая пабачыла свет напрыканцы 2002 года ў Берліне. Гэта вынік супрацоўніцтва Фонду навуковых і палітычных даследаванняў і Германскага інстытута міжнароднай палітыкі і бяспекі.

Падзяляючы пункт погляду аўтара на большасць закранутых пытанняў, хацеў бы сёе-тое ўдакладніць. Для беларускага чытача цікавыя не самі факты, выкладзеныя аўтарам, -- яны збольшага вядомыя, а іх класіфікацыя ды ацэнка, асабліва зараз, пасля чарговага пашырэння НАТО і Еўрапейскага Саюза.

Даследаванне адрозніваецца ад іншых падобных, якія выходзілі ў Германіі, тым, што ў ім падкрэсліваецца "гістарычная еўрапейскасць" Беларусі. Адзначаючы найбольшую інтэнсіўнасць кантактаў Захаду з Польшчай, Прыбалтыкай ды Украінай на пачатку 90-х гадоў, аўтар лічыць, што адной з прычын няўвагі да Беларусі была неінфармаванасць заходніх палітыкаў пра мінулую гісторыю Беларусі, якую шмат хто на Захадзе лічыў проста адной з расійскіх правінцый. Цытата: "Беларусь, бясспрэчна, не была прыдаткам Расіі, а была самастойнай дзяржавай еўрапейскага кшталту і -- да падзелаў Польшчы ў канцы XVIII ст. -- была інтэграванай складовай часткай Усходняй і Цэнтральнай Еўропы ў сферы культуры і палітыкі".

Д-р Цімерман, наколькі я магу меркаваць, першым сярод германскіх палітолагаў мэтанакіравана даследуе дзеянні афіцыйнай Расіі і падтрымку рэжыму Лукашэнкі падчас "лёсавырашальных падзей." Так, лістападаўскі крызіс 1996 года ён называе "канстытуцыйны путч", "які не выклікаў пярэчанняў з боку Расіі, і, больш таго, яна нават сама ўзяла ў ім закулісны ўдзел праз місію Чарнамырдзіна ў дні путчу". Падтрымка Расіяй рэжыму Лукашэнкі на працягу выбарчай кампаніі ў верасні 2001 года разглядаецца ў асобным раздзеле, дзе адзначаецца: "...Пуцінская падтрымка Лукашэнкі ...была моцна падважана і шматлікімі візітамі афіцыйных расійскіх асобаў высокага рангу ў Мінск, і расійскімі тэлекампаніямі... Вяршыняй заангажаванасці стаў прапагандысцкі фільм РТР "Адзін дзень з жыцця прэзідэнта". Лагічным працягам стала прывітанне Пуціным Лукашэнкі з нагоды ягонай перамогі на выбарах, якая ... паводле афіцыйных назіранняў еўрапейскіх арганізацый, стала магчымай дзякуючы масавым маніпуляцыям...".

Разам з тым аўтар спадзяецца на далейшае карэкціраванне дзеянняў расійскага боку ў адносінах да рэжыму Лукашэнкі, чаму ў немалой ступені павінен паспрыяць "новы падыход" Расіі да Захаду пасля 11 верасня 2001 года. Тым больш што пры такім стане рэчаў верны саюзнік ператвараецца ў непажаданы раздражняльнік са сваімі антызаходнімі дэмаршамі. Пошук беларускай апазіцыяй ліберальных партнёраў у Маскве і расійскай правіцы, на думку д-ра Цімермана, можа таксама стаць станоўчым фактарам пераадолення аўтарытарнага рэжыму ў Беларусі.

У развагах пра супадзенне і адрозненне інтарэсаў падкрэсліваецца, што пад уплывам розных фактараў (падзеі ў Чэчні, расійскі крымінал і г.д.) колькасць прыхільнікаў збліжэння з Захадам у Беларусі расце (узгадваецца пуцінская лічба 50% падчас кастрычніцка-лістападаўскай дыскусіі Пуцін--Лукашэнка). Адзначаецца, што за гэтай лічбай стаяць таксама людзі, якія выступаюць за дзяржаўны суверэнітэт і адначасова за захаванне цесных партнёрскіх адносін з Расіяй. Звяртаецца ўвага на тое, што на рэферэндуме 1995 года грамадзяне Беларусі галасавалі за эканамічную, а не за палітычную інтэграцыю з Расіяй, і што гэтую акалічнасць часта не ўлічваюць заходнія публіцысты.

Пры вызначэнні каардынатаў еўрапейскай стратэгіі ў падраздзеле "Афіцыйны ўзровень" аўтар заўважае, што ён не падзяляе думкі некаторых нямецкіх палітолагаў пра варыянты экстрэмальных сцэнарыяў для Беларусі, пры якіх краіна можа аказацца ў сілавым полі своеасаблівага паглынання ў выніку інтэграцыйнай канкурэнцыі з боку Расіі і Захаду за пэўную геастратэгічную прастору, і фармулюе пазіцыю Захаду такім чынам: "...Еўрапейскі Саюз стаіць перад цяжкай задачай: на базе незалежнасці Беларусі выпрацаваць такую палітыку, якая б цясней прывязвала краіну да Еўрапейскага Саюза і адначасова б павежала інтарэсы Масквы ў блізкіх адносінах з Мінскам. Інакш кажучы: у сваіх знешніх стасунках Беларусь павінна ўтрымліваць роўны баланс і, як незалежная дзяржава, узяць на сябе функцыю моста і шарніра паміж заходнімі і ўсходнімі суседзямі. З аднаго боку, гэта б паслужыла захаванню грамадзянскага міру ў краіне, таму што і палітычныя эліты, і насельніцтва падзелены ў залежнасці ад сваіх сімпатый на карысць расійскага ці еўрапейскага накірунку, і пераможаны, відавочна, прыме альтэрнатыву не без супраціву. Эканамічна краіна не можа абысціся без абодвух суседзяў..." Маюцца на ўвазе расійская сыравіна, заходнія тэхналогіі, рынкі збыту для беларускага боку на Захадзе і Усходзе.

Пачатковым інструментам "інстытуцыянальнай прывязкі" Беларусі да Еўропы і далейшых магчымых асацыяваных сумесных дзеянняў з ЕС без перспектывы далучэння магла б паслужыць, паводле меркавання д-ра Цімермана, ратыфікацыя дагавора аб партнёрстве і супрацоўніцтве Беларусі з Еўрапейскім Саюзам з падпісаннем прамежкавай часовай дамовы.

Мы, ў Беларусі, выдатна разумеем, пэўна, лепш, чым аўтар, як нам яшчэ далёка да Еўропы. Не столькі эканамічна, колькі з прычыны браку ліберальнай ды нацыянальнай свядомасці. Узгадваючы вядомы паэтычны рэфрэн "як нам дайсці да Беларусі", я б сфармуляваў перспектыву так: калі дойдзем да Беларусі, дойдзем да Еўропы. Бо аб'яднаная Еўропа, паводле слоў генерала дэ Голя, вялікага патрыёта Францыі і еўрапейца па духу, -- ёсць "Еўропа Радзімаў", а не проста саюз эфектыўных вытворцаў, няхай сабе і дэмакратычных. Бо ёсць яшчэ "мэтафізічныя" рэчы, больш важкія за сыравіну, транзітныя калідоры, цэны на працоўную сілу ды іншыя складнікі геастратэгіі...

Сучасным еўрапейскім палітыкам і палітолагам, што сутыкнуліся зараз пры пашырэнні ЕС у асноўным толькі з эканамічнымі праблемамі інтэграцыйных працэсаў, не вельмі выпадае разбірацца ў спецыфіцы такіх краін, як Беларусь, Украіна, Малдова, дзе фактарам нестабільнасці становіцца праблема правоў карэннай нацыі, так бы мовіць, праблема наадварот: праблема "вялікай нацыянальнай меншасці". Заходнееўрапейскія краіны, дзе нацыянальная дзяржаўнасць і нацыянальная ідэя сфарміраваліся яшчэ напрыканцы XIX ст., дзякуючы чаму яны сталі эканамічна і палітычна тым, чым яны ёсць сёння, і менавіта толькі дзякуючы гэтаму могуць аб'ядноўвацца і далучаць да сябе іншыя краіны. Для еўрапейцаў, як і для амерыканцаў, слова state -- амаль абсалютны сінонім да слова nation. Параўнайце: Арганізацыя аб'яднаных нацый (дзяржаў!).

Ненавіснае для савецкіх людзей Deutschland uber alles (Нямеччына -- перш за ўсё, прыблізны аналаг савецкаму Раньше думай о Родине, а потом о себе), якое на свой людажэрскі лад выкарыстаў Гітлер, -- гэта радок-рэфрэн з верша-заклiку да раздробленай Радзімы-Нямеччыны. Напісаў яго яшчэ ў 1841 г. на чужыне выдатны прускі паэт А.Г.Гофман фон Фалерслебэн, высланы з малой радзімы -- Прусіі за свой ліберальны "агульнагерманскі патрыятызм".

Да напалеонаўскага "новага парадку" ў падначаленай Еўропе шмат якія жыхары кантынента называлі сябе яшчэ не французамі, немцамі ды швейцарцамі, а насельнікамі адпаведных правінцый.

Мы, беларусы, падобна еўрапейцам XIX ст., маем магчымасць дарабіць сёння тое, што нам перашкодзілі зрабіць у свой гістарычны час. Прыклад з ужо амаль пяцігадовай прэтэнзіяй (яшчэ не кандыдацтвам!) Турцыі на ўступленне ў Еўрасаюз, калі застаецца нявырашанай праблема курдскай меншасці ды Паўночнага Кіпра, паказвае, што ні Расіі (паводле нацыянальна-дзяржаўных стандартаў), ні Беларусі не выпадае стаць арганічнай часткай Еўропы, калі не будзе дасягнута ўнутраная нацыянальная і канфесійная гармонія. Тое ж тычыцца Украіны і Малдовы.

Адносна Беларусі, якая паводле выразу аўтара брашуры з'яўляецца выключным выпадкам, дзе кіраўніцтва краіны ўжо на працягу дзесяці гадоў імкнецца само de facto адмовіцца ад сваёй дзяржаўнасці, на мой погляд, трэба яшчэ разглядаць адзін дадатковы фактар рызыкі для стабільнасці грамадства ды ізаляцыі ад Еўропы. Гэта -- расійская артадоксія ў шырокім сэнсе. Не заўсёды тактычна разумная, ужо памісіянерску агрэсіўная, артадоксія пашыраецца сёння на беларускіх абшарах далёка за межы царкоўнага, і не можа разглядацца як нешта перажытае, прыдуманае еўрафіламі паўтара стагоддзя таму.

Пачытайце беларускі закон пра рэлігіі, створаны пад РПЦ, паслухайце намеры Лукашэнкі стварыць своеасаблівы канкардат з РПЦ, паслухайце выступы кіраўнікоў і спонсараў "Радио Радонеж", якое плануе "вещать" на 11 беларускіх гарадоў. Пачытайце расійскі багата афармлены падручнік "Русская православная культура" для гімназій (аўтар -- нейкая А.Бородина, выдавецтва "Покров"). З яго вы даведаецеся пра самы-самы высокамаральны, самы бліжэйшы да Бога, самы міласэрны народ, які абавязкова выратуе свет ад распуснай пагібелі.

Паслухайце разважанні "простого русского народа" ў расійскай глыбінцы пра "капіталістычную" зямельную рэформу (будзем браць вілы!) і некаторых ягоных уплывовых прадстаўнікоў сярод губернатараў ды дзяржавадумцаў. Чытаю ў "Комсомольской правде" ўжо гэтага года: прыехаў новы чалавек у расійскую вёску, пабудаваў дом з цёплым туалетам. Праз колькі дзён прыходзіць да яго дэлегацыя з мясцовых: "Эй, иностранец, ломай на фиг! У нас в деревне ни одного теплого туалета нет...".

У нас у Беларусі таксама ў вёсках мала гарадскіх туалетаў, але ж нашы людзі ніколі не прыйдуць і не будуць ваяўніча патрабаваць, каб ты ўсё так рабіў, як яны. Вось у чым розніца.

Як РПЦ не хоча, паводле прынцыповых матываў, прызнаваць усясветны экуменічны рух ды грыгарыянскі каляндар, так еўрапейска-пратэстанцкая аскеза, свабода асобы ды нацыянальнай адметнасці разам з ліберальнымі эканамічнымі пачаткамі наўрад ці могуць на нашым вяку пусціць глыбокія карані на расійскай глебе. і мы павінны чакаць, пакуль уся гэта гамэрня перародзіцца і павядзе нас да цывілізаванага свету? Гэта для тых, хто заклікае: разам з Расіяй у Еўропу.

І яшчэ. Ва ўсім вышэй узгаданым няма ніякай злой містыкі. У нас з Расіяй розныя жыццёвыя наканавальні. Расію вымушаюць быць акцёрам геапалітыкі вялікая тэрыторыя ды неабсяжныя межы з адрознымі і месцамі не менш "песіянарнымі" суседзямі. Нам жа ўсяго толькі, як бы той Швейцарыі ці Бельгіі, знайсці нішу ў тым сэндвічы, што ўтвараюць нашы суседзі, ды забяспечыць сваім грамадзянам людскую ды прадказальную будучыню. І не па кітайскіх мерках, дзе мільярды патэнцыял насельніцтва прымушае планаваць развіццё мінімум на паўстагоддзя, а з нашымі ўжо менш чым дзесяцю мільёнамі -- хаця б на добры дзесятак гадоў.

Вось і зараз Расія спрабуе набраць мускульную моц, адпаведную памерам свайго аслаблага цела, ды аддае фактычна трэць свайго бюджэту на адбудову сілавых структураў, суцяшаючы сябе тым, што гэта станоўча адаб'ецца і на астатніх галінах вытворчасці. А да гэтага штурхаюць не менш "пасіянарныя" ЗША ды Кітай. Адзін багаты. Па вядомых прычынах. Другі будзе хутка багаты, дзякуючы сваёй не зусім зразумелай нам усходняй працоўнай апантанасці. (Уявіце сабе: у паўднёвай Карэі на паспяховых фірмах афіцыйны адпачынак можа складаць усяго тры дні!) Пасля апошняга "капіталістычнага" партыйнага з'езду Кітай плануе да 2050 года зрабіць сваё войска па меншай меры роўным паводле баяздольнасці войску ЗША. Гэта мы ўжо праходзілі ў час існавання СССР. Бегчы прывязанымі да баявой калясніцы вялікіх -- не зайдросная роля. Я памятаю, як ў нас ў вёсцы ўжо гадоў дзесяць пасля заканчэння вайны жанчыны-інваліды працавалі за пустыя палачкі-працадні ў брыгадзірскім сшытку. Гэта галоўным чынам для таго, каб вялікая дзяржава СССР змагла ашчэрыцца балістычнымі ракетамі ды пачаць будаваць савецкі сацыялізм у Афрыцы, Блізкім Усходзе ды іншых далёкіх краінах з экзатычнымі для беларусаў назвамі.

Так званая "Саюзная дзяржава" не зможа наладзіць эфектыўнае гарманічнае існаванне не толькі з дастаткова вядомых прычын (непараўнальныя памеры гаспадарак, пагроза расійскаму федэралізму, адрозная структура экспарту-імпарту, рознае суседства з ЕС, нікчэмнасць рашэнняў такога псеўдадзяржаўнага ўтварэння паводле міжнароднага права і г.д.), але і праз існаванне ўзгаданых вышэй дэголеўскіх "мэтафізічных" фактараў.

Мы -- не аднолькавыя з Расіяй. Не аднолькавыя ў галоўным. Мы можам суіснаваць з кожным. Расія -- не можа суіснаваць са слабейшым. Яна павінна яго засвоіць і пераварыць. А жыццё добрае наладзіць, як і дома, -- не можа. Захад ды ЗША -- таксама не вегетарыянцы, але ж Фалкленды не хочуць ісці з-пад Брытаніі пад генетычна раднейшую Аргенціну, а жыхары Аляскі не хочуць з цёплых модуляў перабягаць цераз праліў у баракі да сваёй расійскай радні. Гэта -- практычны вынік закону расійскай пасіянарнасці.

Гэта добра разумеюць Прыбалтыка і Польшча, таму і бягуць на Захад. Гэта разумелі нашы продкі з ВКЛ, таму сталі адным з "двух народаў" Рэчы Паспалітай. У наш час, зведаўшы першы плён самастойнасці, паездзіўшы крыху па свеце не праз Маскву, мы пачынаем разумець лепш сваю адметнасць ад усходняга суседа.

Спашлюся на некаторыя чыста эмацыянальныя прыклады з уласнага досведу. Можа, каму-небудзь яны здадуцца занадта інтэлігенцкімі, для мяне яны -- архіважныя. Так, аднойчы паказваю свайму маскоў-

скаму знаёмаму, доктару філалогіі, які спецыялізуецца на сацыялінгвістыцы, свае філалагічныяназіранні-запісы пра ментальнасць яголых землякоў, якія для мяне шмат пра што гавораць.

ершы запіс -- з тоўстага расійскага часопіса. Расійскі генерал, успамінаючы сваю першую паездку на казахскі Байканур, меланхалічна заўважае: "После хорошей поздней выпивки и здорового армейского сна подъезжаем к станции со странным названием Джезды". Доктар сацыялінгвістыкі здзіўлены: "А что тут ты такое находишь особенное, чтобы выписывать? Конечно, абракадабра какая-то: джэзды-...изды. Мы что, не русские? Должно быть всем понятно..." Я кажу: "Што ж тут странного, -- звычайная казахская назва, і ў іх, пэўна ж, нешта значыць, як той Алматы, -- "бацька яблыкаў". Гэта ж прыгожа! Вы пасля "далучэння" называлі Алматы спачатку "Верный" (як "Грозный", "Мирный"), а пасля 1921 года ўлічылі "нацыянальны каларыт" і сталі называць "Яблоневое". І толькі пазней перакручанае Алма-Ата. "Алматы" вымаўляеце і зараз скрывіўшыся.

Паказваю яшчэ прыклад з "Комсомольской правды". Маскоўская журналістка расказвае пра сваю паездку ў Калмыкію. Ехала ў старэнькім, яшчэ савецкага часу, рэдакцыйным "рафіку" мясцовай раённай газеты разам з дзвюма сімпатычнымі калмычкамі. Размаўлялі вельмі міла. Сцэна развітання заканчваецца так: "Выйдя из автобуса, мои спутницы сразу же залопотали на своем птичьем калмыцком". Мой знаёмы кажа: "Но она же ничего плохого не сказала! Скорее наоборот: защебетали как птички!" Я адказваю: "Але ж яна напісала "залопотали", значыць, яе гэта раздражняла. Калі б яна яшчэ напісала "выпорхнув из автобуса... мило затараторили...", то я б мог пагадзіцца". Так мы і разышліся на тым, што не чуем адно адного. Падобныя дыскусіі мне даводзілася весці не раз з праваслаўнымі святарамі пра мову Бібліі і пра мову ў царкве. "Не звучит!" -- вось увесь прысуд мовам инородцев у святых храмах.

Нежаданне пачуць іншага, калі ён не такі, як ты, закарканыя вушы да іншага, "инородного" -- вось яна, ваяўнічая артадоксія і далёка па-за царквой, асабліва ў адносінах да сваіх "младших славянских братьев". Адчуваў я яе як старшыня камісіі па замежных справах Вярхоўнага Савета і як першы амбасадар Беларусі ў Германіі пры асабістых кантактах нават з расійскімі дыпламатамі, інтэлектуаламі і дэмакратамі.

Увогуле -- цікавыя і сімпатычныя людзі, але ўсё роўна на катурнах апрыёрнай вышэйшасці і найвышэйшасці. У простых жыццёвых эпізодах так і прэ барская «снисходительность». Гэта пры тым, што маніі ўласнай нікчэмнасці ў мяне абсалютна няма, і я ніколі не выбіраю прадметам гутаркі невядомую мне тэму. Ніколі не забуду кампанейскую "прастату" генерала Бурлакова, вайскавода Заходняй групы СА, як той, падпіўшы на ельцынскім прыёме ў расійскай амбасадзе ў Берліне на Унтэр-дэн-Ліндэн, узяў мяне за гузік амбасадарскага смокінга ды так па-генеральску проста сказаў: "Что вы там эту херню с независимостью затеяли?". На маю больш чым стрыманую рэакцыю генерал нават пакрыўдзіўся і пачаў чапіцца да ўкраінскага вайсковага аташэ, што стаяў побач, каб той пацвердзіў, што мы ўсе рускія.

Еўропа з дзіўнай паслядоўнасцю асуджае афіцыйна большасць недэмакратычных лукашэнкаўскіх дзеянняў, якія ў свой час падтрымала Расія (парламенцкі путч 1996 г., парламенцкія выбары, прэзідэнцкія выбары і г.д.) і пасля гэтага яе ж "прызначае" галоўным дэмакратызатарам Беларусі. Той самы Пуцін, хоць і не такі ламавік, як Лукашэнка, але ж чым ягоная вертыкаль ці кішэнны парламент лепшыя (ці горшыя?) за лукашэнкаўскія?

У нас -- "хімізацыя" журналістаў ды знікненне апазіцыйных палітыкаў, там -- зачысткі сярод цывільнага насельніцтва ў Чэчні, тысячы загінуўшых вайскоўцаў. Азіятчына тут і там. Але ж Захад паважае інтарэс Расіі быць у блізкіх адносінах з Беларуссю. Гэта з прыведзенай вышэй цытаты. Расіі, паводле сваёй гістарычнай наканаванасці (узгадайце Бісмарка), цяжка стаць еўрапейскай. А без транзітных калідораў ды прэстыжных дамініёнаў -- якая ж Расія?..

Гэта добра разумее аўтар брашуры. Ён пакуль не бачыць Беларусь у Еўропе, а прапаноўвае нам такую экзатычную паставу: быць шарнірна-маставой спарудай. Таму, хто валодае нямецкай гутарковай мовай і дрэнна выхаваны, як я, цяжка пры гэтым пазбавіцца ад навязлівага вобраза Беларусі -- распуснай путаны, бо нямецкае "Nahverhaltnis" (у выразе "інтарэс Расіі ў блізкіх адносінах да Беларусі") у спалучэнні з мостам і шарнірам напрошваецца на кепскі каламбур. Гадоў дзесяць таму, з улікам геастратэгіі, паасобку Літву, Украіну і Беларусь немцы параўноўвалі з паваротнай платформай-колам: Drehescheibe zwischen Ost und West. Прайшлі гады, вобраз змяніўся, сутнасць падыходу, на жаль, -- не.

Нямеччына ў свой час і беларусы дапамагалі пазбавіцца ад таталітарызму, паклаўшы ў зямлю шмат сваіх сыноў. У 1918--1919 гг. немцы дапамаглі літоўцам ды латышам стварыць нацыянальныя дзяржавы. Зараз "гарачая дапамога" тыпу амерыканскай "падтрымкі" дэмакратыі ў Югаславіі мала вітаецца міжнароднай супольнасцю, і гэта добра. Але ж калі ў Мінску адбываюцца "мюнхенскія пагадненні" мясцовага значэння (узгадайце місію Чарнамырдзіна ў лістападзе 1996 г. падчас канстытуцыйнага путчу) ці плануецца правядзенне гвалтоўных рэферэндумаў пры маўклівай згодзе і падтрымцы ўсходняга саюзніка, еўрапейскім дэмакратыям было б дарэчы, узгадаўшы сваё нядаўняе мінулае і забыўшыся на хвіліну пра вялікую геапалітыку, выступіць больш рашуча ў якасці "знешняй інстытуцыянальнай сілы" на баку невялікай, яшчэ слабой нацыянальнай дзяржавы і дэмакратыі.

ак што прычына нашага "неўрастання" ў Еўропу не толькі ў асаблівасцях нашага кіраўніцтва ды нашай рахманасці. Цяжка сказаць, што з чаго пачынаецца. Бо, калі зноў жа ўзгадаць таго самага Бісмарка, які казаў, што геаграфія ёсць адзіная канстанта, што вызначае знешнюю палітыку дзяржавы, то варта глядзець не толькі ў сваё нутро, але і па баках.

**************************************************

# Чаму мы баімся іх

**Пра барацьбу ЗША і Нямеччыны за ўплыў ва Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропе пішуць нячаста. Звычайна абмяжоўваюца намёкамі. Афіцыйныя асобы Беларусі апэлююць да «эўрапейскага патрыятызму» ў сваёй крытыцы палітыкі Штатаў у дачыненьні да Беларусі, тым часам як апазыцыя наракае на Нямеччыну, што нібыта дагэтуль «не разглядае Беларусь як паўнавартасную дзяржаву». Крытычны погляд на гэтую праблему прапануе журналіст уплывовага нямецкага тыднёвіка «Die Zeit».**

«Гаворачы «Эўропа», вы маеце на ўвазе Нямеччыну й Францыю. А я — не, — заявіў міністар абароны ЗША Дональд Рамсфэльд. — Для мяне Нямеччына і Францыя — гэта старая Эўропа. Цэнтар цяжару сёньняшняй «натаўскай» Эўропы перамешчаны на Ўсход».

Усход крыху зьбянтэжаны такой шчырасьцю, хаця «перамяшчэньне цэнтру цяжару» даўно стала для яго рэальным фактам. Гэты крок вашынгтонскіх стратэгаў новыя сябры NATO і кандыдаты ў хаўрус вітаюць. Дзякуючы гэтаму яны яшчэ больш надзейна трапяць пад жаданы амэрыканскі ахоўны «парасон». Польскі ўрад дзеля гэтага стаў прыхільнікам палітыкі Буша. Не зважаючы на пацыфізм свайго земляка-Папы.

Прэзыдэнт Аляксандар Квасьнеўскі, хвалячы Буша, карыстаецца лексыкай, запазычанай зь нядаўняга мінулага. Ён «бясконца» давярае амэрыканскаму кіраўніку, ягоны погляд на сьвет «супадае з Бушавым». Ня дзіва, што Буш рады бачыць свайго хваласьпеўцу наступным генэральным сакратаром NATO. «New York Times» дадае: амэрыканскія войскі, размешчаныя ў Заходняй Эўропе, напэўна, перабазуюцца ў Польшчу.

Польшча і Вугоршчына возьмуць удзел у іракскай кампаніі нават без мандату ААН. Чэхі таксама гатовыя — праўда, з мандатам. Цяпер ужо былы прэзыдэнт Чэхіі ўзорны эўрапеец Гавэл у час разьвітальнага візыту ў Нямеччыну сказаў: «Ёсьць сытуацыі, калі варта дзейнічаць прэвэнтыўна».

**Пустыя кішэні «старой Эўропы»**

«Старая» Эўропа абураецца паводзінамі «новай», і гэта добра відаць па газэтных публікацыях. Але абурацца няма чаго. Пасьля пераўтварэньняў 1989 г. усходнеэўрапейскія краіны пазбыліся прыгнёту, але ня страху перад Масквой. Яны бачылі, што толькі амэрыканцы трымаюць для іх шырока адчыненымі дзьверы заходняга сьвету. Французы не хацелі пашырэньня NATO і ЭЗ на ўсход. Немцы ў гэтым пытаньні аглядаліся на Расею — каб крый Божа не сапсаваць адносінаў.

Толькі ЗША настойвалі на прыняцьці новай стратэгіі NATO. Яна сягае далёка за межы Эўропы. Патэнцыйных кандыдатаў у NATO ўрад Буша бачыць на ўсходзе і паўднёвым усходзе — усюды, дзе ёсьць пляцдармы, неабходныя для барацьбы з тэрарызмам, здабычы крыніцаў энэргіі, дзе пракладзеныя транспартныя шляхі.

Старыя эўрапейскія дзяржавы пачуваюцца адсунутымі на ўзбочыну. Але Квасьнеўскі мае рацыю: «Той, хто скардзіцца, што амэрыканцы моцныя, а эўрапейцы слабыя, мусіць паглядзець, што ў каго ў кішэнях». Тут слабасьць «старых» эўрапейцаў відавочная. Яны ўжо сытыя ад бітваў, што вякамі спустошвалі Эўропу. Пасьля 1989 г. «старыя» эўрапейцы ўсё больш скарачалі вайсковыя выдаткі.

Але спадзевы на вечны мір і канец гісторыі разьвеяла *балканская трагедыя*. Да катастрофаў у Босьніі й Косаве «старыя эўрапейцы» былі ў вайсковым пляне непадрыхтаваныя. За іх бездапаможнасьцю з жахам назіралі толькі што вызваленыя «ўсходнія браты», для якіх бясьпека была зусім новай і важнай каштоўнасьцю, даражэйшай за ўсе эўразьвязаўскія грошы.

**Чаму «новыя» вераць Амэрыцы**

Іх недавер да Заходняй Эўропы нарадзіўся адначасова зь верай у Амэрыку. Эмігранты з Рэчы Паспалітай, падзеленай між Прусіяй, Расеяй і Аўстрыяй, змагаліся на амэрыканскім баку падчас вайны за незалежнасьць. Бісмарк імкнуўся ліквідаваць польскую нацыю. Гітлер і Сталін займаліся тым самым. Не лягчэй было прыбалтам. Тое самае выцерпелі чэхі. Пратэстанцкая Эўропа аддала іх у 1618 г. галаварэзам-Габсбургам, вольная Эўропа выдала ў 1938-м Гітлеру.

Амэрыка прымала ўсіх гнаных. 9-ць мільёнаў амэрыканскіх грамадзянаў польскага паходжаньня падтрымліваюць сёньня сымпатыі Вашынтону да Варшавы. Зьбігнеў Бжазінскі, які дзесяцігодзьдзямі вызначаў напрамкі амэрыканскай замежнай палітыкі, нарадзіўся ў 1928 г. у Варшаве. Ягоны бацька-дыплямат у 1945 г. не вярнуўся ў камуністычную Польшчу. За чвэрць стагодзьдзя да таго іншы польскі габрэй уцёк ад расейцаў у Амэрыку. Ягоны сын — актыўны прыхільнік сёньняшняй ваяўнічай лініі амэрыканскае палітыкі. Я кажу пра Пола Вулфавіца, намесьніка Рамсфэльда.

Калі Польшча падчас халоднай вайны паўставала супраць савецкай гегемоніі, Бжазінскі дамагаўся амэрыканскае дапамогі для гэтага вызваленчага руху. Пакуль нямецкія палітыкі й публіцысты ў 1981 г. цалаваліся з генэралам Ярузэльскім, Амэрыка падтрымлівала «Салідарнасьць» грашыма, супрацоўнікамі спэцслужбаў і добрым словам. У 1990 г. Бжазінскі нейкі час так лабіраваў вызваленую Польшчу на міжнароднай арэне, нібыта гэта ён быў гаспадаром Бэльвэдэрскага палацу ў Варшаве.

Літоўцы ў 1998 г. абралі кіраўніком амэрыканскага грамадзяніна Валдаса Адамкуса, які ў 1944-м 18-гадовым юнаком эміграваў у ЗША. Прэзыдэнт Гавэл, зьнявершыўшыся ў прагных да нажывы палітыках-папулістах, зьвярнуўся да міністаркі замежных спраў ЗША Мадлен Олбрайт, каб тая выставіла сваю кандыдатуру на выбарах пасьля ягонага сыходу. Чэшка Олбрайт дзіцём двойчы мусіла ўцякаць з радзімы — ад нацыстаў і ад камуністаў.

**«Бог усьміхаецца нам»**

«Новых эўрапейцаў» мучыць стары страх, што немцы й расейцы зноў падзеляць Эўропу на зоны ўплыву. Лазьневае сяброўства Коля і Ельцына, сяброўскія каляды Гергарда Шродэра з Пуціным не павялічылі даверу ўсходнеэўрапейцаў да «старых». Амэрыканцы ж ня толькі прапанавалі «новым» свой «парасон», але й абяцаюць дапамагчы ўзбраеньнямі і досьведам.

На такое ня мог не спакусіцца нават Лешак Мілер. Прэм'ер Польшчы, колішні функцыянэр ПАРП, нядаўна надзеў уніформу амэрыканскіх ВПС і сеў у кабіну зьнішчальніка F-16. Пра кароткі выпрабавальны палёт, захоплена распавядаў Мілер, ён «да сьмерці не забудзе».

Гэтаксама доўга палякі і амэрыканцы не забудуцца пра найвялікшы гешэфт у галіне ўзбраеньня за ўсю сваю гісторыю. Польшча цяпер будзе бараніць сябе 48 зьнішчальнікамі «Lockheed F-16». За іх ганарлівая краіна заплаціла круглую суму 3,8 мільярда даляраў. Ня дзіва, што Буш часта тэлефануе Квасьнеўскаму і двойчы зь ім сустракаўся асабіста.

Прэзыдэнт ЗША разьбіраецца ў «новай Эўропе». Пасьля лістападаўскай праскай сустрэчы NATO ён наведаў Вільню й Бухарэст. Амэрыканцы бачаць у Румыніі зь еймі чарнаморскімі партамі важны пляцдарм. Тады як «старыя эўрапейцы» ніяк не хацелі прымаць яе ў NATO. Калі Джордж Буш выйшаў да ўзрадаваных бухарэсцаў, над натоўпам на Пляцы Рэвалюцыі зазьзяла вясёлка. «Бог, — патлумачыў прэзыдэнт, — усьміхаецца нам!»

Варта толькі пажадаць «новай Эўропе», каб гэта не заўжды быў Бог вайны.

Паводле «Die Zeit» пераклаў Сяргей Богдан /Н.Н./

**************************************************

## МОВА -- НЯ ЎЛАСНАСЦЬ ІНСТЫТУТА МОВАЗНАЎСТВА

### Заява Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў

Як стала вядома са сродкаў масавай інфармацыі, у Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь падрыхтаваны праект зменаў у правапіс беларускай мовы. Камісія, якую ўзначальвае акадэмік Падлужны А.І., без шырокага абмеркавання мае намер унесці свае прапановы на зацвярджэнне ў адпаведныя ўрадавыя структуры.

Аднак беларуская мова -- не ўласнасць Інстытута мовазнаўства, гэта агульнанацыянальны скарб, і любыя змены ў яе жывым арганізме патрабуюць самага шырокага абмеркавання. Як мы лічым, у ім павінны ўзяць удзел не толькі супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства, але і іншыя навукоўцы-філолагі, школьныя настаўнікі, выкладчыкі ВНУ. Не збіраецца стаяць у баку і Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Мы не падтрымліваем тыя змены ў правапіс, якія распрацоўваюцца кулуарна, вузкім колам супрацоўнікаў інстытута. Патрабуем, каб узначаленая Падлужным А.І. камісія зрабіла ўсе неабходныя захады для азнаямлення са сваімі прапановамі шырокіх колаў зацікаўленай грамадскасці.

**************************************************

# Таму што ты - беларускі літаратар

Як атрымалася, што ў нашай асобна ўзятай краіне пэўная колькасьць насельніцтва ўпарта не зважае на існаваньне беларускае мовы? Як здарылася, што яна (гэтая пэўная колькасьць) лічыць (процьму ўжо гадоў) нашую мову калгаснай, грубай, каструбаватай? Яна (гэтая колькасьць) стварыла сабе зручную легенду: "па-беларуску правільна размаўляць ніхто ня ўмее". З гэтым ты сутыкаесься, гаворачы з так званым "простым людам" на вуліцы, у мэтро, у таксоўцы. Маўляў, ты гаворыш непісьменна, бо пісьменна па-беларуску гаварыць ніхто ня здольны. І толькі ў якой бяседзе раптам малазнаёмыя людзі (зазвычай - жанчыны) заўважаюць: "вось малады чалавек вельмі прыгожа размаўляе па-беларуску". Гэта зазначаецца зьдзіўлена й узьнёсла. Далей ідзе доўгая, не цікавая табе сто ці болей гадоў, гутарка пра родную нашую матчыну мову, карані, гаротную нашу зямельку й цябе-малайца, які шануе й захоўвае, дый наагул робіць блізкі да гераізму ўчынак.

Як ім растлумачыць, што за доўгія гады карыстаньня гэтай моваю табе папросту значна лягчэй выказваць ёю свае думкі й пачуцьці, чымся нейкай іншай. Раней на пытаньні, чаму гаворыш па-беларуску, ты пачынаў доўгія тлумачальныя прамовы. Суразмоўца не скараўся, завязвалася бязглуздая дыскусія, у якой нараджалася ня ісьціна, а ўзаемнае непрыманьне. Цяпер жа ты гаворыш: "Таму што я - беларускі літаратар". Пытаньні зьнятЫ. Бо народ памятае яшчэ эпоху, калі была эліта - паэты зь пісьменьнікамі, і ім дазвалялася размаўляць па-тутэйшаму. Іх паважалі. Хаця й не разумелі.

Як здарылася, што беларускі асяродак ператварыўся ў кола эмігрантаў у сваёй роднай краіне? Гаворачы па беларуску паўсюль - ва ўсіх момантах свайго звычайнага жыцьця, гэтыя людзі (ну, ня ўсе, натуральна, але большасьць) замкнуліся на сваёй асобе, у лепшым выпадку на сваёй сям'і, на кантактах з сама болей двума дзясяткамі аналягічных асобаў. Не, у гэтым коле ідзе сваё жыцьцё, выдаюцца кнігі, газэты, ёсьць свая музыка, свае навучальныя ўстановы... Усяго гэтага вельмі мала. Як у нацменшасьці. Адсюль - злосьць, агрэсіўнасьць, расчараваньне, няспраўджанасьць у жыцьці. Чалавек, што выходзіць за межы кола - ідзе ў бізнэс, дзяржаўныя структуры - рэдка вяртаецца назад. Дый наўрад ці яго прымуць.

"Нацменшасьць" пагарджае "простым народам", што выракся каранёў, плюе на сваю мову, звычаі, традыцыі, культуру. "Просты" ж народ пагарджае імі - "зацыкленымі", кепска апранутымі, вечнымі студэнтамі, зь іхнымі агрэсіўнымі прамовамі, нікому не зразумелымі, і бунтарскім агнём у вачох (вар'яты!).

Чаму ніхто ня робіць кроку насустрач свайму народу? Чаму энэргія ідзе да астачы на сваркі, на міжасобныя й усялякія іншыя разборкі? Чаму ўсё болей ворагаў сярод сваіх, а на чужых ужо не стае часу? Як здарылася, што асобы нашых лідэраў сталіся дробнымі ды адыёзнымі? Чаму іх ніхто не ўспрымае?

Варта было на хвіліну разысьціся з Масквой, як усе загулі: "Вось нарэшце ён нешта пачынае разумець, ён мяняецца да лепшага, бо ж лепей свае нягеглыя, чымся чужыя - якія яны там ня ёсьць! Хутка ўсё памяняецца". Нічога ня зьменіцца. Ніхто нічога не пачынае разумець, бо ўсе ўсё даўно вырашылі дачынна накірункаў, вэктараў і аўры свае дзейнасьці. Зразумейце: калі ва ўладзе будуць тыя самыя людзі, дык будзе ўсё тое самае - гіпэртрафаваная дружба з Масквой, палацы рэспублік, лядовыя палацы, спорт і рэспубліканскія сьвяты з шашлыкамі й гарэлкаю.

Ты выходзіш на шырокую аўдыторыю, мільгаеш у тэлевізіі, штосьці гаворыш па радыё... Цяпер цябе слухаюць, ты можаш пра нешта гаварыць "нібыта кампэтэнтна", накідаць сваё меркаваньне. А твае меркаваньні, накірункі твае дзейнасьці й твая нутраная аснова за гэтыя гады гэтаксама не зьмяніліся, як не зьмянілася нічога й у адказных высокіх дзяржаўных асобаў. Чаму ж твае былыя аднадумцы так кепска да гэтага ставяцца? Чаму яны лічаць, што ты прадаўся, "апапсеў", ужо зусім ня той, што раней? Таму што ты цяпер належыш ня толькі іхнаму вузкаму колу. Але ж вы калісьці разам імкнуліся да гэтага - выйсьці на шырэйшае кола, на агульнабеларускую прастору, каб вас нарэшце пачула як мага болей людзей! Што ж здарылася? Чаму тое, што ў палякаў пачалося зь перамогаю, у нас цягнецца пад прыгнётам, і вядуцца дзьве вайны: з чужынцамі й сваімі - паралельна. А з таго палкі замучаны дашчэнту, сядзяць у акопах, брудныя, вашывыя й галодныя. Арыентыры страчаны (ня тое, што ў кіраўнікоў дзяржавы); з чаго пачыналася вайна, ніхто ня памятае: ідэалы згубілі свой бляск - адно роспач і злосьць. "Мы не вінаваты, вінаваты яны, вінавата сытуацыя, вінавата кіраўніцтва, кепскае надвор'е й беларускі народ".

Ніхто ня любіць народу: ён і "тупы", і "дурны", і "шэрая маса". Таму й народ нікога ня любіць. З тых, хто ня любіць яго. А дзяржава яго любіць. Яна яго ўхваляе, гаворыць, што ён - самы лепшы на сьвеце й усё ў нас тут вырашае: як ён скажа, так і будзе. Бо народ - працавіты, памяркоўны, гасьцінны, гаспадарлівы. Народ-працаўнік. Таму народ любіць дзяржаву пад чырвона-зялёнымі сьцягамі. Нейкага прадстаўніка народу - раз! - і пасадзілі. Надоўга. Бо краў (злоўжываў, перавышаў паўнамоцтвы, парушаў...). Народу й гэта даспадобы. Народ думае: дзяржава ў нас моцная - калі-нікалі й пакараць можа. Так і мусіць быць. Пры тым, што бальшыня таго народу крадзе, парушае й злоўжывае. Сада-маза? Затое ёсьць пачуцьці.

Нікога ты не пераканаеш. Усе даўно перакананы. Кожны мае свой стрыжань, і стрыжань гэты ва ўсіх розны - злосьць, роспач, хітрасьць, любоў... Дык чаму ты пішаш усё гэта? Ведаеш, чаму? Таму што ты - беларускі літаратар.

*Лявон Вольскі /R.R./*

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Усебеларускі сход інтэлігенцыі перанесены на сакавік

*Адміністрацыя Палацу Рэспублікі адмовілася даць сваю залю арганізатарам Усебеларускага сходу інтэлігенцыі, які быў заплянаваны на 16 лютага. У зьвязку з гэтым аргкамітэт вырашыў адкласьці сход на месяц. Сёньня па Беларусі на сход вылучана ўжо каля 300 дэлегатаў.*

5 лютага адміністрацыя Палацу Рэспублікі паведаміла арганізатарам, што 16 лютага вялікая заля ўжо арандаваная — тэатральным калектывам "Виртуозы сцены" для паказу спэктаклю "Трактирщица". Такім чынам, правесьці ў гэтым памяшканьні Усебеларускі сход інтэлігенцыі ня ўдасца. Але арганізатары інтэлігенцкага форуму сумняюцца, што гэта адзіная рэальная прычына адмовы.

-- Крышку дзіўна нам гэта падалося: калі першапачаткова зьвяртаўся спадар Марачкін як сустаршыня аргкамітэту (адразу пасьля сходу менскай інтэлігенцыі), у Палацы Рэспублікі сказалі, што гэта вырашаецца кіраўніком справаў прэзыдэнта. А гэтае прычыны не было выстаўлена, што заля ўжо замоўленая, - паведаміў Радыё Свабода сустаршыня аргкамітэту Уладзімер Колас.

Аляксей Марачкін, са свайго боку, лічыць, што адмова ў памяшканьні была цалкам прадказальнай:

-- Я асабіста па тэлефоне размаўляў з Карэндам — гэты чалавек сёньня галоўны ідэоляг пры прэзыдэнце — які сказаў мне адкрыта: "Я не падтрымліваю Усебеларускі сход інтэлігенцыі; вы вядзеце да расколу грамадзтва". На што я яму сказаў: "Грамадзтва расколата настолькі, што пара ўжо зьбірацца".

Падобнымі прычынамі аргумэнтавалі адмовы арганізатарам сходу і іншыя цэнтральныя залі сталіцы: канцэртная заля "Менск", Дом афіцэраў, Палац чыгуначнікаў. Самы вольны графік аказаўся ў Дома культуры тонкасуконнага камбінату, зь якім аргкамітэт папярэдне дамовіўся на сакавік.

Паводле арганізатараў, атрыманая часавая рэзэрва дазволіць ім больш грунтоўна падрыхтавацца да сходу: накіраваць афіцыйныя запрашэньні ў дзяржаўныя структуры (міністэрствы, суды, ВНУ), забясьпечыць больш шырокае прадстаўніцтва ад рэгіёнаў. Тым больш, што вылучэньне дэлегатаў ад вобласьцяў толькі цяпер актывізавалася.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# ВЫЙШЛА МАНАГРАФІЯ Т.ПРОЦЬКІ ПРА САВЕЦКУЮ ТАТАЛІТАРНУЮ СЫСТЭМУ Ў БЕЛАРУСІ

У Менску выйшла ў сьвет кніга Тацяны Працькі "Станаўленьне савецкай таталітарнай сыстэмы ў Беларусі (1917–1941 гг.)". Аўтарка, старшая навуковая супрацоўніца Інстытуту гісторыі Акадэміі Навук і старшыня Гельсынскага камітэту, на падставе дакумэнтаў, сабраных на пачатку 1990-х гадоў у архівах КГБ Беларусі й ФСБ Расеі, распавядае, якімі мэтадамі бальшавікі ўсталёўвалі і ўмацоўвалі ў Беларусі сваю ўладу.

Альгерд Невяроўскі, Менск /Радыё Свабода/

Паводле Тацяны Працькі, ідэя гэтай кнігі паўстала яшчэ ў 1989 годзе, а матэрыял для яе зьбіраўся на пачатку 1990-х гадоў, калі аўтарка змагла атрымаць доступ да дакумэнтаў раней закрытых архіваў ЦК КПБ, КГБ і ФСБ Расеі.

На амаль 700 старонках кнігі Тацяна Працька распавядае пра фармаваньне ў Беларусі на пачатку 20-х гадоў мінулага стагодзьдзя таталітарнай палітычнай сыстэмы, яе эканомікі. Большая частка кнігі прысьвечаная рэпрэсіям супраць беларускага сялянства, інтэлігенцыі, духавенства ды іншых групаў насельніцтва. Кніга аздобленая шматлікімі фотаілюстрацыямі, у тым ліку й фотаздымкамі арыгінальных сакрэтных пастановаў ОГПУ-НКВД.

(Працька:) "Можна сказаць, дзьве мэты былі галоўныя. Першая — гістарычная, паказаць, якой насмрэч была савецкая ўлада. Раскрыць мэханізм гэтай сыстэмы. А другая мэта — папярэдзіць тых, хто сёньня жыве, каб тое, што было, ня стала сёньняшняй нашай рэальнасьцю. Бо мой досьвед гаворыць пра тое, што тыя падзеі 20-х гадоў сёньня ўзнаўляюцца па ўсіх паказьніках разьвіцьця грамадзтва — і ў грамадзянскай супольнасьці, і ў палітычных структурах, і ў эканоміцы нашай краіны. Асабліва ў эканоміцы адбываюцца працэсы, падобныя на тыя, 20-х гадоў".

Аўтарка гаворыць, што цяпер напісаць такую манаграфію было бы проста немагчыма — архіў КГБ Беларусі фактычна закрыты для дасьледчыкаў. Для цяперашніх беларускіх уладаў тэма палітычных рэпрэсіяў вельмі непрыемная. Немагчыма без адпаведных рэкамэндацыяў патрапіць і ў маскоўскі архіў ФСБ.

Ня так ужо лёгка было гэта зрабіць і на пачатку 1990-х гадоў. Але дзякуючы рэкамэндацыям тагачасных старшыні Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча й намесьніка старшыні КГБ Беларусі Генадзя Лавіцкага, Тацяна Працька была такі дапушчаная да архіваў.

Цяпер сытуацыя зусім іншая. Ніводнае дзяржаўнае выдавецтва не захацела рыхтаваць кнігу Тацяны Працькі да друку. Зь ёй таксама адмовіліся супрацоўнічаць дзяржаўныя рэцэнзэнты. Кніга пабачыла сьвет толькі дзякуючы кіраўніцтву прыватнага менскага выдавецтва "Тесей".

Манаграфія выйшла на расейскай мове: Тацяна Працька спадзяецца, што частка трохтысячнага накладу будзе распаўсюджаная ў Расеі.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Кангрэсмэн Сьміт упэўнены, што "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі" стане законам у бліжэйшы час

*Амэрыканскі кангрэсмэн Крыстафэр Сьміт падаў 13 лютага на разгляд Палаце прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі". "Жахлівай" назваў сп.Сьміт сытуацыю з правамі чалавека ў Беларусі. Мэтай Акта зьяўляецца прасоўваньне дэмакратычных пераўтварэньняў, правоў чалавека і вяршынства закону ў Рэспубліцы Беларусь, а таксама ўхваленьне кансалідацыі і ўмацаваньня беларускага сувэрэнітэту і незалежнасьці. Акт падтрымлівае ідэю правядзеньня свабодных і справядлівых парлямэнцкіх выбараў у адпаведнасьці зь міжнароднымі стандартамі. Біль прапануе прымяненьне санкцыяў супраць рэжыму Лукашэнкі і забараняе ўезд высокапастаўленых чыноўнікаў Беларусі на тэрыторыю Злучаных Штатаў, патрабуе ад прэзыдэнта ЗША публікацыі інфармацыі аб продажы і дастаўцы Беларусьсю ўзбраеньня і ваенных тэхналёгіяў краінам-ізгоям, прапануе забарону стратэгічна важных для беларускага ўраду відаў экспарту, а таксама дзяржаўнага фінансаваньня з боку ўрада ЗША. Такім чынам распачалася працэдура разгляду Акта новым складам Кангрэсу ЗША, які пачаў працу ўвосень мінулага году. Сам кангрэсмэн у інтэрвію Радыё Свабода выказаў надзею, што законапраект стане законам ужо ў бліжэйшы час.*

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# БЫВАЙ ЭПОХА

28 студзеня Беларусь рассталася з Уладзімерам Мулявіным. Тысячы менчукоў прыйшлі разьвітацца з творцам. У чарзе, што абвіла Аляксандраўскі сквэр, стаялі людзі ўсіх пакаленьняў і пакаленьняў. Новая нацыя, спалоненая ў катле XX стагодзьдзя. Яе геніяльны пясьняр Уладзімер Мулявін стаў такой самай часткай яе гісторыі, як кароль Сьцяпан Батура, паэтка Натальля Арсеньнева. Мільёны людзей адкрылі для сябе Беларусь у тыя гады. З пабытовага і звыклага для абарыгенаў ён агранiў дыямэнты высокага мастацтва. Ён імкнуўся перадусім да камэрцыйнага посьпеху. І пры гэтым стварыў нацыянальны песенны іканастас. У тым ён роўны мастакам эпохі Адраджэньня.

*****************************************************************

*З вялікім шкадаваньнем паведамляем, што "Беларускі Дайджэст" ад цяпер пераходзіць на двумесячнік. Будзем моцна старацца выдаваць газэту што другі месяц...*

# ЧЫТАЙ і ДУМАЙ...

Васіль ГРОДНІКАЎ

## Тайна аднаго сціха

...У Евангеллі сцвярджаецца, што кожнаму народу ўлада даецца Богам. У прыватнасці, я цалкам згодны з гэтым выслоўем (сціхом). Але ў апошнія гады прыйшоў я да думкі, што фраза гэтая не дапісана да канца. Для ўдумлівага чалавека з цягам часу становіцца зразумелым больш глыбокі і шырокі сэнс гэтага выказвання. Сапраўды, кожнаму народу ўлада даецца звыш. Але трэба меркаваць так: аднаму народу -- ва ўзнагароду, другому -- у пакаранне за яго шматлікія грахі: за няздольнасць адстаяць сваю незалежнасць, захаваць і ганарыцца сваёй славутай гісторыяй, умацоўваць дух нацыі, берагчы гонар і славу продкаў, старацца самім на іх быць падобнымі...

У гісторыі кожнага народа былі трагічныя і славутыя гады, перыяды росквіту і заняпаду. Але яны, насельнікі гэтых краін, з Божай дапамогай спраўляліся з тымі бедамі. Бывалі і рэдкія выпадкі, калі імгненна, як дар Божы, звальвалася на зямлю адпаведнага народа ласка Усявышняга, а народ, хворы ад ленасці і баязлівасці, звыклы да шэрага і безвыходнага, вякамі цярплівы да прыгнёту і страціўшы ўсялякую надзею на лепшую долю, нават не заўважыў гэтай міласці, не ўспрыняў яе за шчасце, як дзень збаўлення ад пакут. Наадварот, стрэў гэта падазрона, з недаверам і нават варожа. Такое было нядаўна, і не дзе-небудзь, а ў нас, на Беларусі...

У нашым краі, пасля Вялікага княства Літоўскага, якое часам падманам, часам агрэсіямі з боку паноў-ляхаў і з Усходу жахлівымі і жорсткімі царамі, царыцамі і ханамі, былі знявечаны лепшыя якасці нашага народа -- гонар, слава, годнасць. Нават значная частка насельніцтва сённяшняй Беларусі атаясамлівае назву былой славутай і вялікай краіны -- ВКЛ -- з маленькай Літвой. Блытаюць ліцвінаў з літоўцамі, або тых і другіх -- з расіянамі.

## Якое дзікунства!!!

Можаце сабе ўявіць, як доўга і жорстка глуміліся чужынцы, якія цяпер называюць беларусаў аднакроўнымі братамі і сёстрамі, над гісторыяй, памяццю народа, зямлёй, якую ператварылі і ператвараюць зараз у прахадны двор! І што надзвычай крыўдна: свае ж, -- манкуртамі іх яшчэ называюць, -- са скуры вылузваюцца і стараюцца на радасць чужынцам назаўсёды сцерці нашу гістарычную памяць, дагадзіць тым, чые продкі распачыналі гэтую вандэйска-ганебную і грахоўную справу. І сёння, калі на двары наступае новы час, стараюцца захаваць усё тое, што яшчэ носіць назвы і сімвалы бальшавіцкага перыяду панавання. Спасылаюцца, што гэта гісторыя. Так, гэта гісторыя. Але гісторыя кароткага і жахлівага часу. А дзе ж, панове неабальшавікі, гісторыя Вялікага княства Літоўскага, памяць лепшых яе сыноў -- ліцвінаў, ваенных падзей, гераічны і пераможны вынік якіх адстойвалі свабоду і незалежнасць нашай Бацькаўшчыны яшчэ далёка да Вялікай Айчыннай вайны? А куды падзеліся нашы родныя сімвалы? Балоты, якія яшчэ ўзгадваў Герадот, і тыя вынішчылі з дапамогай тых жа манкуртаў. Малых і вялікіх... Цяпер і Ваўкалакам няма дзе пасяліцца.

Людзі без памяці, людзі без гонару за сваё роднае, людзі, што прадалі сваю душу д'яблу... Ды ці вартыя яны людзьмі звацца?

Дарваўшыся да ўлады неабальшавікі, назваўшы сябе не выкладчыкамі гісторыі, а сапраўднымі гісторыкамі, загадалі перапісаць падручнікі па гісторыі Беларусі, аднавіўшы хлусню пра тое, што сапраўдная гісторыя нашага краю пачынаецца з 1917 года, калі свабоду на нашу зямлю прынеслі бальшавіцкія штыкі і кулямёты "Максім". Такая гісторыя звычайна забывае ўспомніць пра тых, каго знішчыла прынесеная "свабода". Ім няма месца для памяці...

А каб сапраўдныя вучоныя-гісторыкі не совалі свой нос у кніжкі старажытныя, у летапісы тых часоў, што праліваюць святло на сапраўдную гісторыю зямлі беларускай, зноў архівы засакрэцілі, паклалі за краты. Адным словам, аднавілі "абацыдаршчыну" справядлівай гісторыяй нашага краю. І тут не абышлося без "сваіх". Памагатых добраахвотнікаў знайшлося многа і ў Акадэміі навук, і ў ВНУ, і ў сярэдніх прафесійных і агульнаадукацыйных школах, пачынаючы вырошчваць новую плеяду манкуртаў у дзіцячых садках і яслях. Тым больш за савецкі час накоплены вялікі вопыт і трывалая практыка. Зацікаўленыя акупанты і мясцовыя паслугачы такім чынам вырошчваюць слуг д'ябла і абаронцаў акупацыйных сіл і мясцовай марыянетачнай улады.

## Дзесяць дуг, а каня няма

Напісана і сказана пра гэта шмат і шмат разоў паўторана. Аднак, ведаючы гэта і не прэтэндуючы на нейкую арыгінальнасць, мушу зноў і зноў звяртаць увагу чытачоў на гэтыя неабвержныя ісціны, каб яшчэ раз напомніць ім шляхі, якія вядуць нас да выратавання, да ўваскрашэння з небыцця, якія так і спрабуюць замарозіць прыхільнікі і паслугачы сённяшняга рэжыму.

Пішу я пра гэта яшчэ і таму, каб яшчэ раз нагадаць тым, хто, нягледзячы на ўзрост, гэтак бяздумна і абыякава адносіўся і адносіцца да вартай глыбокай павагі і шанавання нашай спадчыны -- гонару, годнасці і славы нашай. Яна вартая таго!

Абсалютная большасць з нас не ведае нашую ж гісторыю, асабліва дакастрычніцкага перыяду. Ды і паслякастрычніцкі час занадта падхарошылі і бальшавіцкія гісторыкі, і журналісты, і, на жаль, пісьменнікі.

Вы калі-небудзь сур'ёзна задумваліся над тым, чаму такое рабілася раней і робіцца зараз? Адкажу, як сам разумею. Народ, у жылах якога не цячэ кроў славутых продкаў, хто не ведае свайго гістарычнага мінулага, такі народ можна хутка ператварыць у быдла, чэрнь, аднакроўцу, выгаднага ўладзе, лёгка падпарадкуемага для ўлады чалавека.

Ураду можна без асаблівай цяжкасці праводзіць з выгляду даволі дэмакратычныя рэферэндумы, выбары, сходы, рэформы, лёгка дабіваючыся патрэбных вынікаў. Можна, не задумваючыся, глуміцца над людзьмі, захоўваючы старую, аджыўшую сацыялістычную сістэму, накіраваную быццам бы на задавальненне сацыяльных патрэб людзей. Гэтая сістэма створана, як сцвярджаюць новыя бальшавікі, для шчасця тых жа людзей, але заканчваецца яна сёння на парогах у дзяржаўныя, савецкія і іншыя прасавецкія арганізацыі і канторы, дзе па-ранейшаму расце мох з лішайнікам, што называецца цяпер бюракратызмам з вымагальніцтвам грошай.

Ваўкалакі ўсюды патрабуюць паперкі, а каб іх раздабыць, трэба выкласці немалыя грошы. Пры большменш сур'ёзнай справе вы можаце згубіць паўгода-год, абысці дзесяткі кантор і ўстаноў, дзе абдзяруць вас, як ліпку. Вы залезеце ў небывалыя пазыкі, просячы ў родных, блізкіх, сяброў і знаёмых грошы. І яшчэ ў рэшце рэшт падзякуеце Богу, калі ў вас атрымаецца, што нарэшце скончылася гэтае хаджэнне па пакутах.

Летась я сам аказаўся ў такім становішчы, як і тысячы тысяч, хто імкнуўся прадаць сваю хату, аформіць завяшчанне, даравальню. Добрую палову цаны хаты ў Мазалях я паклаў у канторах і дзяржустановах: у БТІ, райвыканкаме, сельсавеце, санэпідэмстанцыі і г.д.

А колькі там корміцца чыноўнікаў, асабліва ў апошнія гады, таму што сродкі на іх атрыманне з нас у выглядзе завышаных падаткаў, розных збораў, плацяжоў, аплат за даведкі, тэхнічныя пашпарты, "калькі", ліцэнзіі, рэгістрацыі і перарэгістрацыі, камунальныя паслугі, праезды ў транспарце. Адным словам, адной рукой даюць, дзвюма -- адбіраюць.

Ці чулі вы дзе, каб сярод чынавенства існавала беспрацоўе? Не?! Смела сцвярджаю: і не пачуеце! Эканомяць на пенсіях, на зарплатах, стыпендыях, затое не шкадуюць на міліцыю, КДБ, іншыя сілавыя структуры, ахову прэзідэнта і ягоны штаб пісарчукоў... Хто мае магчымасць, гляньце хоць бы адным вокам на бюджэт краіны, асабліва на раздзел "Расходы", і вам стане зразумелым, хто і для чаго прыйшоў у органы кіравання і на чый млын ён лье ваду і дзьме вецер.

Бадай што ніхто асабліва не будзе спрачацца, калі скажу, што дзяржаўны апарат патрабуе такой атэстацыі і прытым незалежнымі, аб'ектыўнымі і міжнароднымі камісіямі, і пасля суровага і справядлівага прысуду ўпершыню ў гісторыі чалавецтва з'явіцца праблема масавага працаўладкавання былых супрацоўнікаў дзяржапарату і атачэнцаў самога прэзідэнта краіны. Але мудрымі людзьмі прыкмечана: адна варона з куста, пяць -- на куст.

Для палітыкі, накіраванай на паляпшэнне жыцця людзей патрэбны людзі іншай генерацыі. Каму сёння яшчэ не зразумела, што трэба ў першую чаргу аднаўляць, рэфармаваць, удасканальваць, начыняць новай тэхнікай і найноўшымі тэхналогіямі прамысловасць, сельскую гаспадарку, развіваць малы і сярэдні бізнес, а не траціць грошы на спартыўныя забавы? Згодзен, добра мець лядовыя палацы, шыкоўную Нацыянальную бібліятэку, не лішне пахваліцца новым чыгуначным вакзалам, што па сваіх здольнасцях ён будзе задужа вялікім і на дзень яго зносу, як адслужыўшага свой век. Згодзен: няблага, калі ёсць ролікавыя і канькабежныя трасы, футбольныя, хакейныя і іншыя шоу-пляцоўкі.

Але ж, пагадзіцеся, сёння, у час усеагульнага эканамічнага крызісу, гэта не самае галоўнае. Усё гэта добра было б мець тады, калі б мы прайшлі мяжу беспрасветнай беднасці, мяжу адсталасці, мяжу, калі маглі б сказаць: мы ачысцілі ад хламу заводскія і фабрычныя памяшканні і замест металалому там паставілі абсталяванне, якое здольнае выпускаць такую прадукцыю, што і нашы людзі, і замежныя бізнесмены будуць, купляючы нашы тавары, аблізваць пальчыкі.

Ну, дзе ж вы бачылі ў нармальных краінах, каб так бяздарна расходаваліся народныя грошы? Усё ж мы бачым, што эканоміка дыхае на ладан, а мы ў гэты час ладзім вяселле. Вяселле ў час чумы!!! Фу, ад такога шалу аж у галаве круціцца...

Для новай высокатэхналагічнай, сучаснай і цывілізаванай эканомікі і сацыяльнай палітыкі патрэбны людзі не з сярэдняй і завочнай адукацыяй, не спецыялістынедавучкі, не сельскія будаўнікі на пасадах банкіраў, а сапраўдныя вундэркінды, асабліва для Беларусі ў цяперашнім гаротным яе стане. Скараціце армію чыноўнікаў, што перакладваюць паперкі з месца на месца, заплаціце вундэркіндам, як плацяць высакакласным футбалістам і хакеістам, і вы неўзабаве адчуеце станоўчыя вынікі.

Не верце тым бабкам і старым дзядам, якія ў грамадскім транспарце і электрычках распаўсюджваюць думку, што ў нас няма лепшых кіраўнікоў за цяперашніх. Яны ёсць. Паўтараю: ёсць! А тое, што распаўсюджвае радыё, тэлебачанне, дзяржаўныя газеты з дзядамі і бабкамі, то гэта нагадвае мне адну прыказку: вада вадою, колькі яе не вары.

На жаль, Ваўкалакі ад палітыкі і іх атачэнне "зачышчаюць" палітычную прастору ад таленавітых людзей, прадаўжаючы тым самым свой палітычны век здзеклівага кіравання краінай. Працягваецца панаванне д'ябальшчыны, якая адурманьвае людзей усімі магчымымі і немагчымымі (у тым ліку і замбіраваннем) сродкамі. Не перастаюць хваліцца, што наша эканоміка развіваецца нармальна, праўда, з некаторымі невялічкімі недахопамі. Валавы ўнутраны прадукт прырастае (праўда, на складах і заводскіх пляцоўках). Усё ў нас ёсць, былі б грошы (а іх часам няма нават на школьныя абеды вучням і перакусіць студэнтам). Слухаеш такое і думаеш: было, было ды ў дно сплыло...

## Была б дрыгва, а чэрці знойдуцца

Крыж, што пакладзены нашай уладай на нашы плечы -- крыж Усявышняга за шматлікія грахі нашыя, прыйдзецца несці доўга.

Да тае пары, пакуль не паразумнеем, не станем прыніжацца, клянчыць, сквапіцца на чужое і дармавое, падлізвацца, жыць сённяшнім днём, не думаючы пра заўтрашні...

Да тае пары, калі ў людзей не адродзіцца пачуццё адказнасці за лёс свайго краю, сваёй Бацькаўшчыны, а заадно і за гонар і славу сваіх продкаў, за славутую гісторыю нашага народа...

Да тае пары, пакуль мы не ўцямім, што гісторыя наша пачалася не з 1917 года, што былі мы з даўніны сівой людзьмі, духам і адзінствам моцныя...

Да тае пары, пакуль мы не ўзломім замкі архіваў, куды схавана наша мінуўшчына з магутным духам самаўваскрашэння і наймацнейшай сілай дабрыні і самаахвярнасці, вернем разбураную і разрабаваную чужынцамі нашу гістарычную, культурную і духоўную спадчыну і напоім нашы целы гэтым бясцэнным выратавальным дарам, якімі некалі так міласціва надзяліў нас Бог...

Да тае пары, пакуль славутую нашу гістарычную спадчыну не будзе ведаць кожны школьнік, студэнт, дзяржаўны дзеяч...

Да тае пары, пакуль пацвярдзеюць нашы мышцы і воля, каб не падаць нам кожны раз перад чужынцамі на калені...

Да тае пары, пакуль нашы крывяносныя шляхі не панясуць у нашы галовы тое, што забыта, згублена, разрабавана, наўмысна прыніжана...

Толькі тады мы пачнём людзьмі звацца, і народы іншых краін будуць рукацца з намі, як з прадстаўнікамі дастойных гонару і славы цывілізаванай краіны. Тады зваротнай сувяззю замкнецца цыкл нашай высокай духоўнасці і, як кажуць медыкі, наш арганізм пачне функцыянаваць нармальна -- без арытміі, ішэміі, шызафрэніі, дэбілізму і разумовай пустапарожнасці.

## Карані і шаты

Перагортваючы старонкі гісторыі розных народаў, адразу ў вочы кідаецца той факт, што там і раней і цяпер з самага маленства наймаюць для свайго дзіцяці не толькі рэпетытара, каб малое добра вучылася ў школе, каледжы, універсітэце, але з маленства з дапамогай лепшых вучоных свяціл пасцігала складаную прамудрасць -- як кіраваць дзяржавай, кампаніяй, фірмай, прадпрыемствам.

Дзе ж і як рыхтуюцца кадры для кіравання эканамічнай і сацыяльнай сферай у нашай краіне?

Па-першае, ленінскі лозунг аб тым, каб кожная хатняя гаспадыня ўмела кіраваць дзяржавай, мы выканалі. "Поспехі", як кажуць, відаць на сённяшнім абліччы "развітога сацыялізму". Сёння і сярод кіраўнікоў дзяржавы ёсць нямала людзей, якія ў свой час праходзілі падрыхтоўку на прадмет кіравання дзяржавай на калгасных мехдварах, у заводскіх курылках, у "цёплых" кампаніях на ўласных кухнях, на берагах мясцовых вадаёмаў, рыхтуючы юшку для высокіх сталічных гасцей. Вынікі дзейнасці ўладальнікаў такіх "дыпломаў", атрыманых на тых "курсах паскоранай падрыхтоўкі", сёння таксама відавочныя. У публічных выступленнях -- голы папулізм, абяцанкі, пражэкты. За душой няма нічога таксама, што магло б выклікаць надзею на сур'ёзны падыход да выйсця з крытычнага стану нашай эканомікі.

Вось вам адзін факт. На пачатку гэтага года на пасяджэнні ўрада прэм'ер заявіў: да канца года мы будзем мець інвестыцый у народную гаспадарку не

менш як 1,5 млрд. долараў, а праз два-тры гады -- усе пяць! Гэта ў той час, калі мы не мелі нават 200 мільёнаў долараў. Адкуль пасыплецца такая манна нябесная -- ніякіх тлумачэнняў. Проста, як і раней, нам на вушы навесілі, не шкадуючы, пазалеташнюю лапшу. А ўсё гэта для таго, каб пераканаць і народ, і Вярхоўнага камандзіра, што чыноўнікі наверсе не дарма хлеб ядуць, даць чарговую порцыю прапагандысцкай надзеі людзям на хуткае паляпшэнне іх жыцця. Да таго ж напярэдадні выбарчая кампанія ў мясцовыя Саветы... Ат, куды вецер, туды й дым...

У працэсе руціннай працы ў дзяржаўных кабінетах розных узроўняў ідзе так званая рэпетыцыя "мастацкай самадзейнасці". Узровень майстэрства адпаведны самадзейнаму. Таму што ўся гэтая праца пабудавана не на творчым падыходзе, не па сістэме Станіслаўскага, а па каманднa-адміністрацыйнай сістэме, без прафесійнага мастацкага кіраўніка, без вопытнага дырыжора, менеджэра, што з'еў на гэтай справе зубы... /Н. Воля/

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Расею чакаюць войны з Украінай, Грузіяй, Азербайджанам і Кітаем

На думку аналітыкаў карпарацыі Rand Вольгі Олікер і Тані Чэрлік-Палей, аўтарак кнігі "Ацэнка заняпаду Расеі: тэндэнцыі і наступствы для ЗША і ваенна-павектраных сілаў ЗША", найбольш верагодным ў выніку аслаблення Расеі, могуць быць вайна ў Азіі й на Каўказе, а таксама надзвычайныя сітуацыі, звязаныя са зброяй масавага знішчэння. Ня выключаная рызыка таго, што расейскія войскі па загаду альбо без загаду прымяняць ваенную сілу ў канфліктных расейскіх рэгіёнах альбо супраць суседзяў Расеі. Гэта можа прывесьці да пачатку ўзброенага канфлікту. Да аналягічнага выніку могуць прывесьці памежныя сутыкненьні з Кітаем, Украінай, дзяржавамі Балтыі ці Казахстанам.

У кнізе "Ацэнка заняпаду Расеі: тэндэнцыі і наступствы для ЗША і ваенна-павектраных сілаў ЗША" гаворыцца, што тэрарыстычныя групоўкі, якія базуюцца ў Расеі могуць завалодаць ядзернай зброяй, пагражаючы скарыстаць яе супраць Расеі альбо іншых краінаў. Нельга поўнасьцю выключыць магчымасьць пачатку ў Расеі грамадзянскай вайны. На тэрыторыі краіны знаходзіцца шмат аб'ектаў, дзе захоўваецца хімічная, біялягічная і ядравая зброя альбо іх кампаненты. Гэта стварае рызыку іх выкарыстаньня.

Катастрофа на адной з расейскіх АЭС, падобная на чарнобыльскую, альбо на буйным хімічным прадпрыемстве таксама можа прывесьці да катастрафічных наступстваў.

Пашырэньне міжэтнічных канфліктаў у Паўднёвай Расеі і на Паўночным Каўказе можа садзейнічаць з'яўленьню вялікай колькасьці ўцекачоў, якія хлынуць у рэспублікі Закаўказьзя і ва Украіну. Павелічэньне ўзроўня крыміналізацыі расейскай эканомікі можа пертварыць краіну ў прыстанішча для міжнародных злачынных і тэрарыстычных арганізацый, якія будуць пагражаць краінам Эўропы, Азіі й ЗША.

Павелічэньне продажу расейскай ваеннай тэхнікі і тэхналёгій можа прывесьці да рызыкі яе патрапаньня ў рукі агрэсіўных рэжымаў і тэрарыстычных груп. Аўтаркі кнігі лічаць, што гэты сьпіс далёка не поўны.

У кнізе "Ацэнка заняпаду Расеі: тэндэнцыі і наступствы для ЗША і ваенна-павектраных сілаў ЗША" разглядаюцца некалькі сцэнароў магчымых крызісаў.

Адзін з іх можа ахапіць расейскі Далёкі Ўсход прыкладна ў 2015 годзе, калі будзе працягвацца дэградацыя расейскіх узброеных сілаў. Расейцы будуць перасяляцца ў эўрапейскую частку краіны, а іх месца зоймуць кітайскія перасяленцы. Кітай, ваенная магутнасьць якога павялічваецца, можа заявіць прэтэнзіі на далёкаўсходнія тэрыторыі, забраныя Расеяй у 1858 і 1860 гадах. Кітайскае насельніцтва расейскага Далёкага Ўсходу можа аказаць Кітаю палітычную падтрымку ў барацьбе за вяртаньне тэрыторый.

У выніку нагодай для ваеннага канфлікту можа стаць атака расейскіх войскаў, справакаваная Кітаем. Кітайскія войскі большыя і лепш абучаныя, чым расейскія, таму яны могуць хутка захапіць Прыморскі край і Ўладзівасток. Расея можа зьвярнуцца за дапамогай да ЗША.

Яшчэ адзін са сцэнароў крызісу - вайна на Каўказе. ЗША лічаць, што трубаправоды павінны ісьці праз Азербайджан, Грузію і Турцыю, а Расея прытрымліваецца іншага меркаваньня. Калі Арменія застанецца лаяльнай да Расеі, то Грузія і Азербайджан імкнуцца максімальна пашырыць свае сяброўскія сувязі з НАТО і ЗША. Разам з Украінай яны могуць сфармаваць міжнародную групу, якая будзе імкнуцца павялічыць незалежнасьць ад Масквы.

Расейскія міратворцы застаюцца ў Грузіі (у Абхазіі й Паўднёвай Асеціі, якія спадзяюцца аддзяліцца ад Грузіі). Амэрыканскія ваенныя інструктары больш не знаходзяцца ў Грузіі, затое ў гэтай краіне і ў Азербайджане з'яўляюцца кантынгенты турэцкіх войскаў. Ваенныя дзеяньні ў Чачні працягваюцца і Расея перыядычна вінаваціць Грузію і Азербайджан у падтрымцы чачэнскіх тэрарыстаў. У момант эскалацыі вайны, Расея канцэнтруе войскі на межах з Грузіяй і Азербайджанам.

Украіна дэкляруе сваю поўную падтрымку Грузіі і Азербайджану. Украінскія часткі ўваходзяць у міжнародныя міратворчыя сілы, якія павінны забясьпечыць бясьпеку каўказкіх трубаправодаў ад дзеяньняў тэрарыстаў. Армянскія войскі рухаюцца да азербайджанскай мяжы і аднаўляюцца сутыкненьні ў Нагорным Карабаху.

Пасьля сутыкненьняў расейскіх войскаў з грузіна-азербайджана-украінскімі часткамі, Расея заяўляе, што яе войскі дзейнічалі незалежна ад цэнтральнага камандаваньня. Узброеныя сутыкненьні працягваюцца, а тэрарысты праводзяць некалькі пасьпяховых тэрактаў на трубаправодах, што ставіць рэгіён на мяжу экалягічнай катастрофы. Украіна, Грузія і Азербайджан зьвяртаюцца да НАТО з просьбай увесьці ў рэгіён міратворцаў. У гэтым іх можа падтрымаць Турцыя.

Яшчэ адзін сцэнар - ядравая катастрофа на любым атамным абьекце Расеі. Яна можа быць выклікана як тэхнічнымі непаладкамі, так і актамі сабатажу, дзеяньнямі тэрарыстаў і г. д. У любым выпадку, гэта прывядзе да вялізных разбурэньняў і вялікай колькасьці ахвяраў.

Ня выключана, што тэрарысты могуць зрабіць дыверсійны акт на адным з аб'ектаў, дзе захоўваецца ядравая зброя і ўкрасьці ядравыя боепрыпасы. Таксама тэрарысты могуць пагражаць заразіць значныя тэрыторыі радыёактыўнымі адыходамі.

Такі крызіс можа адбыцца ў 2003-2006 годзе, калі група, якая адкалолася ад "Ісламскага руху Узбекістана", звязаная з афганскімі групоўкамі, зьвернецца да ЗША , заходнеэўрапейскіх краінаў і Расеі з патрабаваньнем вызваліць усіх арыштаваных у часе антытэрарыстычнай апэрацыі.

Удар расейскага спецназу па базе гэтай групы ў Сярэдняй Азіі будзе безвыніковым. Праз адзін-два дні ядравы зарад, магчыма атамная міна, будзе ўзарвана ў адным з буйных расейскіх гарадоў. Тэрарысты аб'яўяць, што падобныя выбухі адбудуцца на тэрыторыі ЗША і іншых краін Эўропы. Гэта выкліча міжнародны крызіс. У гэтай сітуацыі Расея можа зьвярнуцца за дапамогай да ЗША.

Аўтаркі кнігі сьцвярджаюць, што гэтыя прагнозы могуць стаць рэальнасьцю. М. Вайтовіч (R.R.)

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

# Мантыя для беларускага прафэсара

Прафэсару Станіславу Шушкевічу, вядомаму беларускаму фізыку-ядравіку, былому старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі 12 скліканьня прысвоена ганаровае званьне прафэсара філязофіі Сеульскага ўнівэрсітэту.

Экс-старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі прафэсар Станіслаў Шушкевіч днямі наведаў Паўднёвую Карэю і Японію. Ён быў запрошаны для ўдзелу ў міжнароднай канфэрэнцыі былых кіраўнікоў дзяржаваў і былых кіраўнікоў урадаў. Канфэрэнцыя называлася "Лідэры і кіраваньне". Акрамя ўдзелу ў міжнароднай канфэрэнцыі, ўсясьветна вядомы беларускі прафэсар, фізык-ядравік правёў шмат сустрэчаў з карэйскай і японскай грамадзкасьцю, з навукоўцамі, студэнтамі, наведаў Такійскі парлямэнт, японскі Ротары-клюб. У Паўднёвай Карэі экс-сьпікеру парлямэнту Беларусі і былому прэзыдэнту Інданэзіі прысвоілі ганаровыя званьні прафэсараў філязофіі Сеульскага ўнівэрсітэту.

Распавядае прафэсар Станіслаў Шушкевіч.

- Я звычайна выкарыстоўваю свае кантакты. Мяне запрасілі ў Сеульскі ўнівэрсітэт . І прысвоілі мне ганаровае званьне доктара філасофіі гэтага ўнівэрсітэту. Уручылі мантыю ад Вэрсачэ, шапку (што для нас, беларускіх прафэсараў, дзіўна). Я меў магчымасьць пабыць у гэтым унівэрсітэце, азнаёміцца з ім. А потым я быў яшчэ ў адной краіне, у Японіі, і наведаў адзін з унівэрсітэтаў Токіё. І таксама там былі нейкія кантакты, выступленьні, але гэта былі не лекцыі, як я звычайна езджу, а такія сяброўскія сустрэчы. Таму што ў Токіё навучальны год пачынаецца 1 красавіка, зараз якраз ідуць уступныя экзамены, і вонкавая паліцыя нікога не пускала, бо конкурс 5 чалавек на адно месца. Але нас там сустрэў чалавек вельмі паважаны - кіраўнік аб'яднаньня прафэсараў Токіё, і нам практычна ўсё паказалі - сучаснае абсталяваньне, навуковую базу...

Станіслава Шушкевіча зьдзівілі дзьве на першы погляд парадаксальныя рэчы. І карэйцы, і японцы, з аднаго боку, вельмі мала ведаюць пра Беларусь. Так, у міжнародным адздзеле Такійскага парлямэнту нават не ведаюць, што ў Японіі ёсьць беларуская амбасада. Былы амбасадар Беларусі ў Японіі Пётр Краўчанка нават не спрабаваў наладзіць кантакт з парлямэнтам 12-мільённай сталіцы краіны... Зь іншага боку, японцы праяўляюць да нашай краіны незвычайную цікавасьць.

Станіслаў Шушкевіч працягвае:

- Калі я прыехаў у Токіё, там было спатканьне, і было 1200 чалавек у зале і 400 ў калідорах - слухалі трансляцыю. Я распавядаў пра Беларусь І яшчэ было вельмі цікавае спатканьне і вельмі павучальнае для мяне - у японскім Ротары-клабе.

Мы мелі магчымасьць у Осака з віцэ-прэзыдэнтам гэтага клуба сустрэцца, гэта вельмі ўплывовая асоба, вельмі паважаная. Найбольшым зьдзіўленьнем для іх было тое, што на Беларусь выпала значна больш радыёактыўнасьці, чым на Хірасіму і Нагасакі. Ну я ж разумею, якая там трагедыя была, там жа зьнішчэньне было не толькі праз радыёактыўнасьць... Мы пра гэта ўсё гаварылі. Яны добра ведаюць аб бядзе Беларусі, але пэўныя лічбы, параўнаньні не былі ім вядомыя. І ў нас была вельмі цікавая і карысная размова. І я думаю, гэта станоўча паўздзейнічае на іх дапамогу, яны хочуць дапамагаць тым, хто трапіў у бяду. Яны кажуць; "Мы цяпер краіна багатая, і мы разумеем і хочам дапамагчы тым, хто зараз жыве не лепшым чынам".

Станіслаў Шушкевіч шчыра спадзяецца на дапамогу заможных японцаў, якія са спачуваньнем паставіліся да Чарнобыльскай трагедыі.

**********************************************

Ніл ГІЛЕВІЧ

## Пачуйце!

Магчыма, і гэты мой кліч
Далёка не дойдзе: заглохне
У нетрах муроў-камяніц,
У зараслях чортапалоху.
Магчыма... І ўсё-ткі, і ўсё ж:
-- Пачуйце! Пачуйце! -- гукаю. --
Імперцы прыставілі нож
Да горла няшчаснага краю!
Пачуйце ж, о дзеці зямлі,
Што ваша павек, і не дайце,
Не дайце, каб род наш звялі
Антыхрысты і запраданцы!
2002, красавік



## Аднаму з ніцых

Чаму ты радуешся, ніцы раб?
І што жабрачым пафасам вітаеш?
Пагібелі сваёй дзяржавы рад?
На згубу Бацькаўшчыны гімн складаеш?
Які ж ты ўсё-такі са смердаў смерд
І з халуёў халуй! Якая ганьба!
У тых, што гоняць Беларусь на смерць --
Плюгавы, да агіды, памагайла!
Знай, лёкай, рады хамуту-ярму:
Я прозвішча тваё з радзімых гукаў
Не называю тут адно таму,
Што мне шкада тваіх дзяцей і ўнукаў.
2002, лістапад



## Праклён

Будзьце праклятыя вы, каты свабоды!
Вы, што душылі і душыце нас!
Вы, акупатары нашай господы,
Нашых багаццяў і нашых украс!
Будзьце праклятыя і вы, запраданцы,
Лёсам народу майго гандляры!
Юдавы выблядкі і ўзгадаванцы!
Брудных і блудных таргоў махляры!
Будзьце праклятыя і вы, вырачэнцы
Мовы і духу бацькоўскай зямлі!
Вы, надзіманыя пыхай нікчэмцы,
Волі і хэнці чужой халуі!
Гэта з крыжа я крычу вам, распяты
Горам народа і болем маім.
Будзьце праклятыя вы! Будзьце праклятыя!
Сёння і заўтра й вавекі! Амін!
2002, лістапад

# Помнім герояў?

**Другога лютага споўнілася 165 гадоў з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага (1838-1864). К.Каліноўскі з'яўляецца адным з самых славутых сыноў Айчыны. Дзеля Айчыны і яе народу ён ахвяраваў сваё жыццё. За арганізацыю і ўдзел у паўстанні ў 26 гадоў быў павешаны царскімі ўладамі ў Вільні.**

Аб гэтым юбілеі ў Гродне не ўспомнілі, толькі сціплыя кветкі ў нядзелю ляжалі каля памятнага знака, што на чыгуначным вакзале. Мы дагэтуль у сваім горадзе не маем помніка нашаму нацыянальнаму герою. На цэнтральнай плошчы стаіць Ленін...

Чацвёртага лютага быў яшчэ адзін юбілей – 257 гадоў з дня нараджэння Тадэвуша Касцюшкі. Ён нацыянальны герой не толькі Беларусі, але і Польшчы, Літвы, Францыі, Злучаных штатаў Амерыкі. Аб ім у Гродне таксама ніхто не ўзгадаў. Кароткая ў нас памяць, землякі.

# Журналіст Вярнуўся з Вёскі...

I. Шлях да торбы

Гадоў пятнаццаць назад калгас "Шлях да камунізму" Стаўбцоўскага раёна быў мільянерам, зараз жа, нягледзячы на тое, што гаспадарка яшчэ трымаецца "на плаву", вяскоўцы называюць яе "Шлях да торбы"...

Першы раз мы пачулі гэтую назву ад мужчын, што корпаліся ля адной з сянажных траншэй. За імі бялелі фермы, цямнеў, заваліўшыся на бок, акуратна падпёрты цялятнік і разбураўся недабудаваны кармацэх.

Мужчыны ў агульных рысах вызначылі сённяшні партрэт гаспадаркі: моладзі мала, пенсіянераў многа, і ўсім для поўнага шчасця катастрафічна не хапае грошай.

-- А што, мала плацяць? -- запыталіся мы.

-- Ой, якія там заробкі! -- закрычалі мужыкі. -- Добра, што сваё ўсё, купляць нічога не трэба, а так бы прапалі!

-- Няўжо селянін на зямлі зарабіць не можа?

-- Дык не заўсёды ўродзіць! Ды і калгас можа мяса ці малако здаць, а грошай паўгода чакаць, а то і болей.

Зайшла гаворка пра фермерства.

-- Для фермерства вялікі капітал патрэбны, альбо дзяржаўныя крэдыты, тады і з горада прыязджалі б людзі, бралі зямлю і абраблялі б яе. А заняць зямлю, каб пуставала, -- нашто гэта? -- слушна гаварылі мужыкі.

...Па заснежанай вуліцы пераганялі з фермы на ферму статак, а ззаду ў санях ехаў малады мужчына. Пазнаёміліся: загадчык фермы Генадзь Зіневіч. З назвай "Шлях да торбы" ён не згодны:

-- Я змяніў пяць калгасаў, у некаторых па шэсць месяцаў зарплату не плацяць. У параўнанні з імі тут сапраўдны камунізм: грошы даюць рэгулярна, а вясной старшыня яшчэ насенне выпісвае...

Даведваемся: у Зіневіча пяць дзяцей.

-- Як жа вы рызыкнулі...

-- А хто ж ведаў, што так жыццё павернецца? Ды яны і растуць хутка: старэйшая ўжо і есці прыгатуе, і прыбярэ, а агарод капаць хорам куды весялей!

-- А з малымі як?

-- Меншаму чатыры гадкі, садка няма, дык я яго з сабой на ферму бяру.

-- Колькі ж на ферме ваш працоўны дзень цягнецца?

-- З пяці раніцы да дзевяці вечара.

-- А на сябе працаваць хацелі б?

-- Раней людзі сваю гаспадарку вялі, а цяпер -- страшна! Раптам нешта не так, дык потым не будзеш знаць, што і рабіць. Не дай, Божа, засуха, тады -- усё! Але ў будучым усё роўна прыйдзецца пераходзіць на фермерства, куды мы падзенемся!

...Ля фермы набеглі маладыя жанчыны і залямантавалі, што дзяцей сваіх больш у школу не пусцяць! Аказалася -- раённыя ўлады скарацілі рэйс маршрутнага аўтобуса, растлумачыўшы, што ён не акупаецца, і дзесяць вёсак такім чынам адсеклі ад усяго свету. А ў кожнай вёсцы па некалькі школьнікаў, і цяпер шасцігадовыя і васьмігадовыя малыя вымушаны крочыць да школы праз лес па 5--8 кіламетраў.

-- А калі мароз пад трыццаць? -- крычалі жанчыны. У адной з іх малыя ўжо некалькі дзён сядзяць дома. Стары, што стаяў побач, разгублена прамовіў:

-- Я тэлефанаваў намесніку старшыні Стаўбцоўскага райвыканкама, а ён мне: "На кані сваю ўнучку ў школу вазі!" А ёй жа -- усяго шэсць, а ехаць больш за восем кіламетраў, яна ж захварэе!

-- Цяпер ні ў раённую бальніцу не з'ездзіш, ні ў Рубяжэвіцкую аптэку, ды і да Дзяржынска, як да Месяца, хоць ён не больш, чым за трыццаць кіламетраў! -- абураліся жанчыны. -- Каму скардзіцца? Што ж далей будзе?

Напляваецельскія адносіны чыноўнікаў да людзей найбольш яскрава праяўляюцца на працягу апошніх пяці-васьмі гадоў, прычым на ўсіх узроўнях улады, так што скардзіцца і, праўда, няма каму, але далей з жыццём нашым будзе, напэўна, толькі тое, што мы самі дазволім. Здзівіла мяне, што на кароўніку столькі маладых жанчын працуюць, але яны растлумачылі: гэта, бадай, адзінае месца ў калгасе, дзе можна добра зарабіць. Калі ў суседніх гаспадарках даяркі атрымліваюць максімум па трыццаць тысяч рублёў у месяц, то тут нават зімой -- звыш за сто тысяч!

...У калгаснага дыспетчара маладой сімпатычнай Жанны Навіцкай, заробкі не такія вялікія. Ды і засталася ў вёсцы яна толькі таму, што выйшла замуж за мясцовага хлопца. Ён -- зваршчык, летам зарплата ў яго аж 170 тысяч рублёў, а зімой -- усяго 60, але ратуе свая гаспадарка, з якой можна што-небудзь і прадаць. У іх малое дзіця, даглядае яго бабуля, бо садка ў вёсцы няма. Жанна марыць мець трох дзяцей, што пакуль нерэальна, бо мала грошай. Калі б дзяржава стварыла нармальныя ўмовы для фермерства, Жанна з мужам абавязкова ўзялі б надзел зямлі. Але дзеці, -- у гэтым яна цвёрда ўпэўнена, -- павінны жыць у горадзе, бо там лягчэй.

...Гарады папаўняе ў асноўным вёска, і гэта нармальна, таму што нідзе ў цывілізаваным свеце не занята ў сельскай гаспадарцы столькі народу, колькі ў нас. Але нідзе ў свеце няма і такой нізкай прадукцыйнасці працы, як у нашых калгасах. А вось гэта ўжо -- прамы дакор неагараджанам -- дэпутатам, бізнесменам, журналістам, чыноўнікам, вучоным, якія могуць і проста абавязаны карэнным чынам змяніць сітуацыю на сваёй малой радзімае, дзе засталіся іх бацькі, сваякі і аднавяскоўцы. Ды і, калі разабрацца, усе мы -- праз пакаленне ці некалькі, -- родам з вёскі...

Пра фермы і фермерства

Цёзка Зіневіча -- Генадзь Векша -- таксама загадчык адной з калгасных фермаў. Ён лічыць, што буйныя жывёлагадоўчыя комплексы ўжо даўно зжылі сябе:

-- Калісьці былі фермы невялікія -- па сто галоў. Пасвіш па лясах такі статак -- малако амаль дармавое атрымліваецца, а тут, на комплексах, -- суцэльныя затраты! Малако зараз не цэніцца, мінералка даражэйшая за яго. Заводы плацяць нам па 237 рублёў за літр, а ў магазіне яно каштуе пад 600. Ці ж гэта парадак? Селяніну трэба больш працы ў малако ўкласці, чым перапрацоўшчыку: і пакарміць жывёлу, і папаіць, і падаіць. Нашы даяркі зарабляюць зімой добра -- па 150--200 тысяч рублёў, а летам -- нават за 300. Але ж зарплата ў іх магла б быць і пад 800 тысяч! І хто толькі такія цэны насоўвау? Чаму раённае сельгасупраўленне не разбярэцца?

-- Няўжо вы ўсур'ёз лічыце, што гэта залежыць ад раённага ўпраўлення?

-- Няхай бы міністэрства ці нават прэзідэнт навялі парадак!

-- Думаеце, міністр ці прэзідэнт не ведаюць, што робіцца?

-- Думаю, што не ўсё ведаюць, бо любы начальнік аб сітуацыі мяркуе павярхоўна, па лічбах, якія яму даюць. А трэба ў глухую вёску ехаць, самім глянуць, ды людзей спытаць!

-- Дробныя фермы -- гэта, па сутнасці, фермерскія гаспадаркі, вы б згадзіліся гаспадарыць на такой?

-- Пры сённяшніх цэнах, пры сённяшняй інфляцыі я не магу нават трактар купіць, які, самае меншае, дзве тысячы долараў каштуе. Плюс -- усе да яго прычындалы -- гэта ўжо мінімум 5--6 тысяч. Я такіх грошай не магу здабыць у вёсцы. А я ўзяў бы зямлю! У мяне сын тут, дачка, жонка, можа, хто з суседзяў дапамог бы, -- гектараў 20--25 змаглі б абрабляць. Ды ферму малочную галоў на 30 арганізаваў бы, ды адкормачнік бы заклаў, -- галоў 20 бычкоў узяў бы! А на зямлі можна было б вырасціць усяго: і збожжа, і люцэрны, і сена!

-- Ці многія з вашых аднавяскоўцаў рашыліся б рызыкнуць?

-- Калі б дзесяць гадоў назад стварылі адпаведныя ўмовы, далі б беспрацэнтныя пазыкі, дык палавіна маладых людзей не паехала б у горад, і ўсё даўно акупілася б, даю вас слова! Ды і зараз многія вярнуліся б. А яшчэ лепей, каб зрабілі гэтыя малыя гаспадаркі, як казаў мой бацька, адразу пасля вайны. І цяпер Беларусь была б вышэй за ўсіх, таму што ўмовы ў нас ёсць, каб узяць і збожжа, і малако, і мяса, і бульбу. І ўсё было б самае таннае і самае лепшае! Чаму сюды з Галандыі ды са Штатаў мяса, кураціну пруць? Усё ж -- хімія! І плацяць ім нашы намнога больш, чым сваім. А з нічога -- нічога не зробіш!

-- А тыя, што падрастаюць, згадзіліся б застацца гаспадарыць тут?

-- Калі б, як раней, вучылі школьнікаў на механізатараў і аператараў машыннага даення, а потым далі б субсідыі, ды вызвалілі гадоў на дзесяць ад падаткаў, бо ў вёсцы паднімацца цяжка, дык стваралі б маладзейшыя невялічкія гаспадаркі -- чалавек на пяць і працавалі. І калі дзяржава не зоймецца гэтым, з вёскай -- усё, вёска -- на мяжы вынішчэння, яе адны толькі цэны на паліва задушаць!

...Ля фермы пыхкаў трактар, у кабіне якога сядзеў малады хлопец. Запыталася ў яго, ці хоча стаць гаспадаром.

-- Не з маімі грашыма, -- адказаў ён.

-- А калі б пазыку далі, умовы стварылі?

-- Тады, можа, і згадзіўся б, я працы не баюся, інакш бы не рабіў у вёсцы.

З боку майстэрняў шпарка крочылі тры механізатары гадоў пад сорак. Я вырашыла дыпламатычна пачаць здалёк і задала класічнае пытанне:

-- Ну, як падрыхтоўка да сяўбы ідзе?

Яны злосна глянулі на мяне і адзін, не спыняючыся, буркнуў:

-- Якая сяўба? Грошы на запчасткі патрэбны, а дзе яны, грошы гэтыя?

Пытацца ў іх пра фермерства я не адважылася.

Бачыла я пасля страшэннай буры, як выварочвалі з зямлі магутны дуб, у які ўдарыла маланка. Крона была абпаленая, ствол нібы рассеклі напалову, але карэнні так моцна трымаліся за зямлю, што людзі вымушаны былі пакінуць дрэва ў спакоі. А праз нейкі час карэнні далі маладыя парасткі...

...Сярод найбольш паважаных людзей калгаса вяскоўцы назвалі Тарасевіча, Гудзіеўскага і Каспарэвіча. Пра Тарасевіча сказалі: "Яны з жонкай -- самыя юныя ў сваёй вёсцы".

Кожнаму з самых юных жыхароў занесенай снегам Гурнаўшчыны было за 60. Яны настаўнікі. Раней у калгасе было пяць школ, але чатыры закрылі, бо стала мала дзяцей. Іван Аляксандравіч паскардзіўся, што дарогі не чысцяцца, газ не завозіцца, аўталаўка дабрацца не можа, так што хлеб даводзіцца купляць рэдка, нават "хуткую дапамогу" не выклікаеш, бо не даедзе.

А Галіна Станіславаўна сумна сказала:

-- Адзінае выйсце -- знішчыць малыя вёскі, бо ніхто іх ужо не падніме: ні мы, ні нашы дзеці... Жывуць тут людзі ды пакутуюць. Вынішчаецца нацыя, -- дадала яна, -- вынішчаецца наша культура і спадчына.

Іван Станіслававіч заўважыў:

-- У Латвіі тых, хто не ведае латышскай мовы, да дзяржаўных пасадаў не дапускаюць, а наша мова гіне.

Пра будучыя выбары настаўнікі сказалі так:

-- Бог -- толькі на небе, на зямлі, мусіць, няма Бога, якому можна пакланіцца. Так што няма каму ўладу даверыць, няма за каго галасаваць!

...За кожнай такой маленькай вёсачкай -- многія пакаленні продкаў, кожная вёсачка -- драбнюсенькі, але каштоўны фрагмент у стракатай мазаіцы нашай краіны. Адны назвы чаго вартыя! У мясцін, дзе раскінуўся "Шлях да камунізму", дзіўная гісторыя. Калісьці яны належалі Радзівілам, у XVI--XVII стагоддзях былі тут і касцёл, і дзве царквы -- уніяцкая і праваслаўная, і вернікі, мусіць, жылі дружна, бо былі суседзямі. Потым у тутэйшых лясах фарміраваў свае атрады Булак-Булаховіч, шмат слаўных старонак упісала Вялікая Айчынная ў мясцовы летапіс, а што было да ўсяго гэтага, адзін Бог ведае, -- можа, калі-небудзь нашчадкі і раскапаюць, калі не знішчым таго, што пакуль яшчэ маем.

...Багдан Цэзаравіч Гудзіеўскі вёў з вадапою прыгожага белага каня, які нібы вырас з таго белага жарабяці, пра якога напісаў Караткевіч у кнізе "Каласы пад сярпом тваім".

-- На самай справе, -- растлумачыў Багдан Цэзаравіч, -- прозвішча маё -- Годзіеўскі, але бальшавікам падалося, што гэта вельмі па-польску, яны і замянілі ў дакументах адну літару.

Гудзіеўскаму -- 73 гады, амаль сорак з іх прарабіў брыгадзірам у калгасе, дзеці ў горадзе, так што жывуць яны ў хаце толькі ўдваіх з жонкай. Наконт назвы ён сказаў:

-- Стараліся, але не дацягнулі да камунізма, а цяпер гаспадарку як толькі не называюць: і "Шлях да торбы", і "Шлях да выжывання". У нашых Рудзевічах засталіся тры мужчыны пяць-шэсць удоў ды пара выпівалаў, што жывуць, як бамжы. Праз пяць-дзесяць гадоў усе адамруць і застанецца тут пустэча!

-- Можа, зменіцца нешта ды вернецца моладзь?

-- Ды ніколі! Хто зараз працаваць хоча? А зямлю не падманеш: не ўкладзеш у яе працы, нічога і не атрымаеш. Няма цяпер гаспадара, усіх сапраўдных гаспадароў у Сібір да белых мядзведзяў загналі!

Умяшалася жонка Багдана Цэзаравіча, закрычала:

-- Куды моладзі вяртацца? Нічога ж не будуецца! Чаму Лукашэнка ўсё толькі ў горадзе будуе? Няхай бы ў вёсках будаваў, народ бы і вярнуўся!

Багдан Цэзаравіч успомніў слаўнае калгаснае мінулае, калі на рахунку ў гаспадарцы было аж тры мільёны, і заключыў:

-- Усё прапала: і калгасныя грошы, і тыя, што людзі па капейцы збіралі, а судзіцца няма з кім. І зараз цяжка: тэхніка гадоў праз пяць зусім даб'ецца, а за адзін толькі камбайн трэба ўвесь калгасны ўраджай збожжа аддаць. Таму гаспадарка -- на плячах пенсіянераў. Наш калгас яшчэ так-сяк, існуе пакуль, хаця людзі зарплату атрымліваюць мізэрную. Той, хто на ферме працуе, мяшок які сцібрыць, так і жыве.

-- Але ж вы лён вырошчваеце, а ён ва ўсім свеце -- на вагу золата, чаму ж у вас грошай няма?

-- Тэхніка патрэбна, а на яе -- грошы. А рабіць усё ўручную, дык рук не хапае. Лён вырошчваць -- справа тонкая, за ім догляд патрэбны. Пераляжаў крыху, і ўсё стала рвацца-ламацца. А якасць палатна залежыць ад якасці і даўжыні ільносаломкі. Мінулым летам надвор'е паспрыяла, і лён урадзіў чысты, роўны, але грошай у гаспадаркі ўсё роўна няма.

...Пра Антона Антонавіча Каспарэвіча аднавяскоўцы сказалі: "У нас касцёла няма, дык ён для людзей капліцу зрабіў!".

-- Не, -- спакойна сказаў разважлівы Каспарэвіч, -- яе мой сын Валодзя рабіў, а я толькі дапамагаў. Была тут старая школа: ні даху, ні вокан, усё аблуплена, бэлькі паабвальваліся... Дык пайшоў сын да былога старшыні і папрасіў аддаць ці прадаць будынак пад капліцу. І кожны раз, як прыязджаў на канікулы, на працягу шасці гадоў рабіў там усё сваімі рукамі. Шыфер куплялі за свае грошы, дошкі свае я аддаў, агароджу -- усё, што

было.

-- А на каго сын вучыўся?

-- На ксяндза вывучыўся, зараз на Вілейшчыне служыць. Мяне дзед і маці да рэлігіі прывучылі, малым быў, -- не лягу спаць, пакуль не памалюся. А сыну, можа, бабка прывіла набожнасць, а, можа, сусед, -- жыў тут такі дзед Сасноўскі. Цікавы чалавек! 104 гады пражыў і ўсё аднаасобнікам. І саджалі яго, і каня забіралі, усё адно ў калгас не пайшоў! Казаў: "Усё жыццё Беларусь -- то пад Польшчай, то -- пад Расіяй, а свайго круля -- няма! А нам свой патрэбны, і каб гаспадаром добрым быў!"

У калгасе як скажуць -- так і рабіць трэба, а я жыву сваёй галавой і з Богам у сэрцы.

-- А ў капліцу людзі ходзяць?

-- Не вельмі, -- адказаў Каспарэвіч, -- можа, 15--20 бабак, а моладзі няма.

-- Але скажы, -- запярэчыла жонка, Алена, -- на святы народу хапае, ды яшчэ на трэцім тыдні кожнага месяца ў канторы для дзяцей набажэнства служаць па-беларуску. І для дарослых таксама па-беларуску.

-- А тое, што па-беларуску, вы лічыце важна?

-- Трэба ж, каб беларуская мова была! -- захвалявалася Алена Уладзіміраўна. -- Мы ж у Беларусі жывём, дык што, каб наша мова памерла?

Антон Антонавіч дадаў: "Мы ж не патрабуем польскай мовы, а свая павінна быць, а як жа! Во, я служыў у арміі, дык украінец там гаворыць па-руску, а дамоў прыедзе, -- чыста на ўкраінскай мове! А я тры с паловай гады праслужыў і потым ніяк не мог пераламіцца зноў да беларускай мовы, -- прывык ужо. А ўкраінцы -- малайцы, у іх свая мова ёсць!"

У Каспарэвічаў, як і ў астатніх старэйшых вяскоўцаў, беларуская мова прыгожая, сакавітая, але дзеці, што жывуць у Мінску, гавораць ужо па-руску, і гэта засмучае бацькоў. Дзяцей у Каспарэвічаў пяцёра: дзве незвычайнай прыгажосці дачкі і трое хлопцаў, -- міліцыянер, бізнесмен і ксёндз. Маці паказвала сямейныя альбомы і сцвярджала, што любіць усіх аднолькава, але пра ксяндза Валодзю гаварыла з асаблівай цеплынёй: "Ён усё можа, чаго нават і на свеце няма, -- вязаць, шыць, вышываць, пірагі пячы, авечак стрыгчы, будаваць, машыну вадзіць і граць на любым інструменце! А кветак вакол дома свайго насадзіў, -- аж мігціць усё!"

З аднаго фотаздымка глядзеў на нас высокі, прыгожы і вясёлы хлопец з баянам, з другога -- ужо сур'ёзны малады святар.

-- Ён і па дрэве рэжа, хочаце паглядзець? -- Алена адчыніла дзверы ў суседні пакой, і мы з калегам анямелі ад захаплення: у сонечных промнях залаціліся дзве скульптуры, адна -- Маці Божая, другая -- нейкі святы... Як удалося майстру адчуць і ўвасобіць у дрэве -- нават не рух, а нейкае радаснае імгненне ў павароце гнуткай жаночай постаці і водбліск такой жа раданай усмешкі на твары? Жывым здаваўся і святы, у абліччы якога была нейкая неспасцігласця для нас мудрасць і незвычайная дабрыня... Напэўна, гэта былі шэрэўры, таму што надзённыя праблемы падаліся раптам мізэрнымі і сталі зразумелымі словы Хрыста: "Не хлебам адзіным жывы чалавек"...

Па дарозе на цэнтральную сядзібу пазнаёміліся з дзвюма жанчынамі. Марыя Міхайлаўна Сакалоўская атрымлівае пенсіі крыху больш за 50 тысяч рублёў, муж, якому за семдзесят, -- столькі ж.

-- Нічога не купляем, няма за што, -- з горыччу гаварыла яна. -- Добра, хоць дзеці з горада прывязуць якую адзежыну ці яшчэ што. А я ж іх, трохмесячных, пакідала ў хаце адных, а сама на работу ў калгас бегла!

Падышла жанчына, пацікавілася, ці не дабавілі яшчэ гадоў, каб выйсці на пенсію? Сказала, што хоча афоміць пенсію і адначасова працаваць на ферме, бо патрэбны грошы для траіх дзяцей, што жывуць у горадзе. Дзеля іх трымае кароўку і пяцёра парсючкоў, каб кожнаму дзіцятку па кавалачку свініны ды па рубельчыку дасталося!

-- А колькі ж гадкоў дзеткам?

-- Пад трыццаць і за трыццаць, але ж яны мне дапамагаюць: і дроў назапасяць, і бульбачку пасодзяць! -- пахвалілася клапатлівая маці.

...На цэнтральнай сядзібе мы зайшлі ў краму і здзівіліся: багаты выбар прадуктаў і сярод іх -- дарагія цукеркі! Няўжо купляюць? Прадаўшчыца Галя з'едліва заўважыла: "У людзей жа дзеці! Калі грошы дадуць, аж на працягу трох дзён купляюць, а потым зноў на сталe -- хлеб з бульбай. Што ж гэта за зарплата -- 50 тысяч?".

-- Скардзяцца людзі?

-- Не, нашы людзі добрыя, маўчаць.

-- А хіба ж добра -- маўчаць?

-- Не ведаю, але ўсё жыццё так моўчкі і жывём!

-- А прыватных крам у вас няма?

-- А я іх, шчыра кажучы, знішчыла, -- заявіла Галя. -- Прыязджалі камерсанты з "Еўраопта", з Мінска, прывозілі шмат прадуктаў, заходзілі да нас, глядзелі, якія цэны, і свае зніжалі. Ды яшчэ і ў крэдыт давалі. Усе да іх толькі ішлі. А нам якраз зарплату 50 тысяч зрабілі. Я разззлавалася і стала тэлефанаваць у райвыканкам, і ўсюды, ну, іх і прагналі.

Вось такі просты, але эфектыўны спосаб барацьбы з канкурэнтамі знайшла баявая Галя, -- зусім у духу нашай дзяржаўнай эканамічнай палітыкі. Што ж датычыцца раённых улад, то іх дзеяннем не варта здзіўляцца, асабліва калі прыпомніць акцыю з рэйсавым аўтобусам. Можа, яны наогул з калгасаў некранутыя запаведнікі зрабіць вырашылі!

У краму зайшла вясёлая бабуля з немаладым мужчынам. Пазнаёміліся: пенсіянерка Леанарда Віценцьеўна Мойса і яе сын Раман Вацлававіч. Яны везлі дахаты збожжа, якое старая зарабіла на льне.

-- На пенсіі адпачываць трэба! -- заўважылі мы.

-- Дык жа не даюць адпачываць, бо працаваць няма каму! -- весела растлумачыла пенсіянерка. -- Маладыя ж -- у горадзе. Што загадаюць нам зрабіць, а што і папросяць, а мы, пакуль ногі перастаўляем, робім. Збожжа пенсіянерам проста так не даюць, яго зарабіць трэба, так што лёс прымушае старых працаваць. Хочаш кароўку мець ці свінку -- працуй! На адну пенсію не пражывеш!

-- А якая пенсія ў вас?

-- 63 тысячы.

-- Напэўна, і дзецям дапамагаеце?

-- А як жа! Божа, Божа! Калісьці і яны нам дапамагалі, калі ўсё больш танным было, а цяпер, як старыя кажуць, галоўнае, -- каб паспець дзяцей да пенсіі дагадаваць! У нас у калгасе яшчэ жыць можна, каб толькі не пагоршала.

-- А можа пагоршаць?

-- А што ж вы думалі! Вунь, перадавалі, што ў Польшчы пагоршала, а я да сваякоў ездзіла, -- дык нічога жывуць, багата, і дзяцей многа!

-- А горш стала жыць за апошнія пяць гадоў?

-- Горш, намнога горш!

-- А ці ведаеце, што калгас вяскоўцы называюць цяпер "Шлях да торбы"? Умяшаўся бабулін сын Раман Вацлававіч: "Нельга гаварыць "да торбы", гэта вельмі рэзка, трэба гаварыць "Шлях з камунізма".

-- А што вы думаеце, -- раптам задуменна сказала старая, -- можа, і да торбы дойдзем...

...Калі вядзецца падлік мільярдным даўгам, якія павінны калгасы дзяржаве, і заводзіцца гаворка пра тое, што сяло -- бяздонная яма, дзе знікаюць народныя грошы, не забывайцеся, калі ласка: калгасная сістэма і сяло наогул -- не адно і тое ж! Вяскоўцы, пераважна пенсіянеры, кормяць сябе, сваіх дзяцей-гараджан і нас, прычым у асноўным прадукцыяй са сваіх прасядзібных участкаў. Ды пры гэтым яшчэ ўхітраюцца -- часта задарма -- працаваць у калгасах. Так што пытанне трэба ставіць па-іншаму: навошта тая калгасная сістэма, якая пажырае безліч грошай, калі краіну сяляне могуць пракарміць і без яе?

Сумнае інтэрв'ю

Пакуль мы гутарылі з вяскоўцамі, старшыня калгаса Соф'я Уладзіміраўна Ляўковіч, якая кіруе гаспадаркай трэці год, некуды з'ехала. Але завочны партрэт яе, складзены са слоў калгаснікаў, мы ўжо мелі. Амаль усе гаварылі пра старшыню з павагай, адзначалі, што яна добры эканаміст, і ўжывалі дзеясловы "круціцца", "стараецца", "б'ецца", а некаторыя нават сцвярджалі, што калгас канчаткова б разваліўся, калі б не Соф'я Уладзіміраўна. Многія здзіўляліся: навошта было ёй мяняць прэстыжную і даволі спакойную пасаду старшыні сельсавета на гэткія клопаты?

Я патэлефанавала Соф'і Уладзіміраўне праз дзень пасля нашага вяжу. Голас у яе быў сумны, бо, як высветлілася, яна ніяк не можа збыць сыр і сметанковае масла.

-- Адкуль у вас сыр з маслам? -- здзівілася я.

-- Ды Стаўбцоўскі малаказавод павінен нам з ліпеня 150 мільёнаў рублёў. Мы малако здаём, атрымліваем нейкія грошы, але доўг у 150 мільёнаў усё роўна застаецца. Адзінае выйсце: завод аддае гэтую суму сырам з маслам. Але я павінна знайсці пакупнікоў, якія забралі б у завода прадукцыю і пералічылі грошы на калгасны рахунак. Вось і шукаю іх па тэлефоне.

-- Грошы на пасяўную патрэбны?

-- І на пасяўную, і на зарплату, -- на ўсё грошы патрэбны. Трэба паліва купляць, -- гэта ж кроў вытворчасці, а яно толькі за апошнія дні стала даражэй на тры працэнты. Але на малако цэны не павысілі. Калісьці за літр малака можна было набыць літр бензіну, а цяпер літр бензіну каштуе столькі ж, колькі 3,5 літра малака, ды яшчэ набыць яго можна толькі за папяроднюю аплату. Старшыня калгаса імя Суворава прызнаўся мне, што ўжо трэці месяц не купляе паліва.

-- Лягчэй было б, каб мелі сваю перапрацоўку малака?

-- Канешне! Калі б мы ў калгасе змаглі наладзіць хаця б фасоўку малака, многія б праблемы ўдалося вырашыць.

Потым загаварылі пра лён. Аказалася, што "Шлях да камунізму" здаў сёлета столькі трасты, колькі ўсе астатнія ільнаводчыя гаспадаркі Стаўбцоўшчыны, а іх у раёне -- пяць. Але грошы за яе таксама выплацілі пакуль не ўсе. Раней ільнаводчым гаспадаркам камбікорм прадавалі па сімвалічнай цане, зараз жа прывілею гэтую ліквідавалі. А лён -- культура працаёмкая.

-- Нават не ведаю, што б мы рабілі без пенсіянераў, -- уздыхнула Соф'я Уладзіміраўна, -- працаваць жа няма каму. Сёння, напрыклад, у нас толькі пяць трактароў на хаду. А палі нашы складаныя, камяністыя, механізатары з іншых гаспадарак працаваць не на іх не могуць. І ў той жа час нам яшчэ патрэбна зямля, бо ў калгасе на сто гектараў сельгасугоддзяў -- сто галоў жывёлы. Хацелі да нас далучыць вельмі слабенькі калгас "1 Мая", але ўсе калгаснікі прагаласавалі супраць.

-- Якія перспектывы ў вашай гаспадаркі?

-- Сітуацыя пагаршаецца, тэхніку набыць не можам, урадлівасць глебы падае, бо арганікі і мінеральных угнаенняў у яе ўносім зараз амаль удвая менш, чым раней, -- няма грошай.

-- Вы ж эканаміст, якое выйсце, на вашу думку, можа быць?

-- Усё ідзе да вынішчэння сельскай гаспадаркі, таму дзяржаўная палітыка ў адносінах да сяла павінна змяніцца. Але, з іншага боку, прынялі дзяржаўную праграму "Лён", а што толку? Трэба рэфармаваць сельскую гаспадарку, трэба, каб селянін стаў прыватнікам, трэба прыняць закон, які абараняў бы прыватную ўласнасць. Сёння механізатар прыйшоў на работу, па мотарэсурсу масла трэба мяняць, а ён узяў і паехаў, бо гэта "не маё". Але, баюся, спазніліся мы, упусцілі час, бо рэформы праводзіць трэба было яшчэ ў пачатку 90-х. А з чаго пачынаць зараз? Як, скажам, доўг у адзін мільярд рублёў падзяліць на паі? Трэба, каб была прыватная ўласнасць, але што ў калгасе дзяліць? Няма чаго...

-- А чаму вы згадзіліся на старшынства? Гэта ж сёння бесперспектыўная справа, навошта вам гэты галаўны боль?

-- Не ведаю нават -- лёс, мусіць, такі. Я ж нічога не нажыла, у домік свой, што ў Стоўбцах, амаль не выбіраюся, жыву тут, у мамы... Лёс, відаць, такі.

Можа, адгукнецца хто-небудзь з бізнесменаў дый дапаможа Соф'і Уладзіміраўне прадаць сыр з маслам, каб правесці пасяўную? Сітуацыя, вядома, паўторыцца, але хоць сёлетняй вясной калгас выкруціцца. Напэўна, ніводны чужаземец не зразумеў бы, чаго мы трымаемся за калгасную сістэму, як брытанцы за манархію? Яна ж развальваецца на вачах, а ў некаторых гаспадарках яшчэ засталіся дужыя, рызыкоўныя і разумныя людзі, гатовыя ўзяць на сябе адказнасць за лёс сельскай гаспадаркі. Дык чаму ж тэрмінова не пачаць сапраўднае рэфармаванне?

Можа, каб рашыцца на гэта, варта было б вам, спадары вышэйшыя чыноўнікі, самім наведаць калгас "Шлях да камунізму", ці як яго называюць "Шлях да торбы". Толькі, зразумела, без помпы і не на машынах, а на грамадскім транспарце, як гэта робяць мясцовыя людзі, а потым кіламетраў восем пяшочкам прайсціся. Не пашкодзілі б такія вандроўкі лідэрам партый, дэпутатам палат і прадстаўнікам грамадскіх арганізацый, каб ведалі, ад імя каго і дзеля якога народа яны дзейнічаюць.

А людзі тут, на Стаўбцоўшчыне, цудоўныя, добразычлівыя, адкрытыя, ветлівыя. Яны вельмі чакаюць вас!

Ганна *АРЦЮШКЕВІЧ*. /Народная Воля/

*******************************************

# Свой бацюшка

**Сымон СВІСТУНОВІЧ** /Звязда/

Веліч Царквы не ў колькасці храмаў і старадаўніх абрадаў, а найперш залежыць ад святароў. Менавіта святар з'яўляецца тым падмуркам, на якім трымаецца прыход і наўкол якой аб'ядноўваюцца вернікі.

І калі святара называюць айцом ці бацюшкам, то гэта накладвае на яго пэўныя маральныя абавязкі. Праўда, сёння на гэта ўжо мала хто звяртае ўвагу. Зварот згубіў свой першапачатковы сэнс, стаў звычайным.

Але мне хочацца сказаць слова пра святара, які карыстаецца ў вернікаў асаблівым даверам і павагай.

У вёсцы Ляхавічы (не блытаць з райцэнтрам), што ў Драгічынскім раёне, стаіць драўляная царква XIX стагоддзя. Храм невялікі і нічым не вызначаецца, а вось святар, айцец Генадзь, асоба унікальная. Жывы чалавек, які не хаваецца за свой сан і не прыкрываецца расай.

Генадзь Станіслававіч не толькі святар, але і вясковы староста. І гэта, бадай, адзіны выпадак на Брэстчыне. Людзі давяраюць свайму святару, бо ведаюць яго з дзяцінства. І часта пасля службы святар з вернікамі абмяркоўвае вясковыя праблемы, і ніхто не сумняваецца, што калі сказаў бацюшка, то так і будзе.

Генадзь Воран нарадзіўся ў суседняй вёсцы Зарэчка. Там закончыў школу, ажаніўся з мясцовай дзяўчынай — вучыліся разам.

Яшчэ вучнем бегаў тайком у ляхавіцкую царкву дапамагаць святару. Даводзілася нават хавацца пад мостам ад настаўнікаў, бо інакш не выходзіла — у школе ўсе піянеры, камсамольцы, атэісты.

Але неўзабаве растаў атэістычны лёд, і Генадзь Воран ужо сам стаў праваслаўным святаром, хаця бацька яго быў каталікам, але праблемы гэты факт не стварыў.

У ляхавіцкага святара жывы розум (ва ўсякім разе, на жарты ён рэагуе імгненна) і багаты голас. Вось не закончыў чалавек ніякіх музычных устаноў, а стварыў два хоры — дзіцячы і дарослы, якія на фестывалях

праваслаўнай песні ў Польшчы займалі прызавыя месцы. І той факт, што спевакоў удалося арганізаваць у звычайнай палескай вёсцы, гаворыць пра многае.

Са сваёй жонкай Алай ляхавіцкі бацюшка жыве ў згодзе. У іх тры дачкі, якія нарадзіліся адна за адной, і старэйшая ўжо вучыцца ў каледжы. Вялікая сям'я, і гаспадарка салідная. Дзве-тры каровы на двары святара ўбачыць можна, ды і доіць іх часта бацюшка сам. У святара ад вернікаў няма сакрэтаў — ад людзей нічога не схаваеш. Ён сярод іх свой.

* * *

У ляхавіцкай царкве вельмі многа абразоў, а яшчэ больш вышываных ручнікоў і абрусаў — ахвяраванні вясковых жанчын. Бацюшка паказаў узнагароды, атрыманыя на фестывалях, пачаставаў віном і... свежым кляновым сокам.

І хіба не дзіва выпіць сок у студзені? Аказалася, што, як толькі пачалася адліга, клён «пусціў» сок.

Шчыра кажучы, у гэта я не магу паверыць. Але ці можна сумнявацца ў царкве? Слову святара верыш!

************************************************

# Ян Новак-Езяранскі: Кожны год незалежнасьці — як выйгрыш у лятарэі

Ён сустрэўся з грамадзкімі і палітычнымі дзеячамі гораду. Прыязджалі й колькі асобаў з сталіцы, сярод іх — Станіслаў Шушкевіч. Ян Новак-Езяранскі гаварыў аб сваім успрыманьні Беларусі і беларусаў, аб уласным імкненьні дапамагчы.

Перадусім ён сказаў, што шчасьлівы наведаць Беларусь. І знаходзіцца пад уражаньнем ад размоў зь беларускай элітай. Госьць зазначыў, што не прэзэнтуе ўрадаў ЗША ды Польшчы і выказвае свае асабістыя погляды. Але хоча падзяліцца сваімі меркаваньнямі з прадстаўнікамі вышэйшага эшалёну амэрыканскай улады. З сваім сябрам Зьбігневам Бжазінскім. А таксама з прадстаўнікамі польскага ўраду. З тымі, хто цікавіцца беларускімі справамі.

Трэба актывізаваць амэрыканскую і польскую палітыку ў дачыненьні да Беларусі, мяркуе ён. Каб было прызнана, што трэба паставіць Беларусь вышэй у сьпісе і амэрыканскіх, і польскіх прыярытэтаў. І гэта, уласна, ён бачыць галоўнай мэтай ягонай асабістай місіі.

Яшчэ цытаты з Новака-Езяранскага:

«Ня можа быць незалежнай беларускай дзяржавы, калі большасьць беларускага грамадзтва ня будзе зь ёй сябе ідэнтыфікаваць. І ня будзе прагнуць таго, каб мець уласную незалежную дзяржаву. І самая вялікая праблема — у тым, каб дапамагчы вам абуджаць нацыянальную сьвядомасьць. Каб вы дапамаглі ў гэтым самі сабе. Гэта зусім ня значыць, што гэтая незалежная беларуская дзяржава не павінна праводзіць палітыкі збліжэньня з Расеяй. Калі беларусы вырашаць, што гэта адпавядае інтарэсам іх сувэрэннае краіны, хаўрус з Расеяй — на ўмовах роўнага з роўным — гэта ваша справа. А ня справа амэрыканцаў і Польшчы. Мова ідзе аб тым, каб Беларусь мела свабоду ў выбары рашэньняў. Рашэньняў, адпаведных волі большасьці народу.

**Прадзед з-пад Горадні**

Самай выніковай формай дапамогі Злучаных Штатаў Польшчы, апроч эканамічнай, было радыё «Свабодная Эўропа». Я кажу гэта не таму, што сам быў дырэктарам Польскай службы радыё 25 гадоў. Мае словы — толькі вынік майго досьведу. 3 траўня 1953 г. мы перадалі сваю першую праграму. Паўстагодзьдзя таму. Сьвет тады выглядаў інакш. Я не ўяўляў сабе, што атрымліваю ў рукі інструмэнт, які акажацца такім дзейсным.

Таямніцай посьпеху «Свабоднай Эўропы» была свабода. Мудрыя амэрыканцы сказалі: мы ня хочам, каб гэта быў «Голас Амэрыкі», які ўдае голас свабоднай Польшчы. Мы хочам, каб гэта быў аўтэнтычны голас свабоднай Польшчы і свабодных палякаў. Таму, калі ня будзеш парушаць пэўных канонаў, абмежаваньняў, якія вынікаюць з таго, што вяшчаеш зь нямецкай тэрыторыі, дык будзеш мець свабоду. І мы былі голасам свабодных палякаў. Калі б радыё «Свабода» ці радыё «Рацыя» мелі такія тэхнічныя магчымасьці, каб маглі даходзіць да кожнага беларуса — гэта быў бы надзвычай важны інструмэнт у вашым імкненьні да свабоды і дэмакратыі.

Гэта не вымагае такіх вялікіх выдаткаў. «Свабодная Эўропа» каштавала столькі ж, колькі два зьнішчальнікі. Але падтрымка радыё была б найлепшай формай дапамогі вам ад Амэрыкі. І ад Польшчы. Бо, каб гэты сыгнал даходзіў, ён павінен перадавацца з блізкай адлегласьці. Польшча магла б у гэтым удзельнічаць як малодшая партнэрка амэрыканцаў.

Мой продак Юзаф Кужанецкі быў адсюль, меў два маёнткі на Гарадзеншчыне — Паканева і Кужанева. Мой бацька там нарадзіўся. Юзаф Кужанецкі перахоўваў паўстанцаў у 1863 г., і расейцы забралі ў яго маёнткі, выселілі яго. Ён быў вельмі скупы і меў столькі грошай, што купіў сабе іншы невялікі маёнтак Пяскі. Там выхоўваўся і мой бацька. Відавочна, што ў цяперашнім разуменьні гэтага слова ён быў беларусам. Хтосьці мне прывёз фота таго месца, дзе быў наш падворак. Толькі якісьці відарыс на траве, рэшткі падмуркаў.

**Беларусь дала Польшчы герояў**

Палітыка Польшчы і стаўленьне палякаў да беларусаў былі памылковымі. Я гэта бачыў, перажываў. І я лічу, што прэтэнзіі Польшчы на гэтыя землі, у большасьці заселеныя беларусамі, і жаданьне дамінаваць тут былі гістарычнай памылкай. Гэта вынікала з таго, што Беларусь дала нам нашых герояў і пісьменьнікаў. Тадэвуш Касьцюшка ў цяперашнім разуменьні быў беларусам. Ягоны дзед быў праваслаўным. Эліза Ажэшка, вялікая пісьменьніца, была ўласна беларускай пісьменьніцай, паходзіла адсюль. Крашэўскі быў беларусам. Гэты сьпіс можна доўжыць. Але палякі не ўсьведамлялі, што тыя людзі нарадзіліся на беларускай зямлі. Цяпер з гэтым скончана.

Я сёньня не заўважаю ў палякаў імкненьня да зьмены мяжы. Я яшчэ не сустракаў паляка, які сказаў бы мне, што Польшча павінна вярнуць Горадню. Няма гэтага. Польшча пагадзілася зь мяжою на ўсходзе. Мы ведаем сваіх шавіністаў. Але я не сустрэў сьцьвярджэньня, што трэба вярнуць землі, якія сёньня належаць Беларусі. Гэта закрыты разьдзел. Польшча хоча адной рэчы: непарушнасьці межаў. Па-другое, вялікая частка польскай інтэлігенцыі ўсьведамляе, што бясьпека Польшчы моцна залежыць ад існаваньня незалежнай і моцнай Украіны, Беларусі, Літвы. Гэта для нас нагэтулькі ж важная справа, наколькі й знаходжаньне ў NATO.

Існуе, аднак, пэўны сантымэнт. Палякі схільныя шукаць збліжэньня і паядналння з усходнімі суседзямі. Усе апошнія ўрады праводзяць гэтую палітыку. Падпісаны дамовы аб добрасуседзтве і супрацоўніцтве. Але гэта на ўрадавым узроўні. Нельга абмяжоўвацца гэтым. На ўзроўні грамадзкім працэс ідзе значна цяжэй. Бо як зьмяніць стэрэатыпы, што склаліся гадамі? Беларусы — слушна ці не — бачылі ў палякам колішніх паноў. Так было. Але й гэта ўжо ў мінулым. І ня трэба, каб тая нядобрая мінуўшчына пераносілася ў будучыню. У беларускіх, польскіх і амэрыканскіх інтарэсах — добрае супольнае жыцьцё.

Важна, каб Беларусь, Украіна цягнуліся да Захаду і каб Захад хацеў іх прыняць. Каб мяжа Эўропы не была мяжой Польшчы на ўсходзе. Пасьля далучэньня Польшчы да Эўразьвязу гэта будзе цяжкай справай. Трэба, каб украінцы і беларусы не адчулі сябе адцятымі ад Захаду. Бо іхняя мяжа на ўсходзе адкрытая. Польшча будзе абавязаная зрабіць візы. Але можна зрабіць іх недарагімі.

**Амэрыканцы вам мовы ня вернуць**

Я са зьдзіўленьнем даведваюся, што абавязковай моваю ў Беларусі зьяўляецца не беларуская, а расейская. Але зьмяніць гэта можна толькі пад націскам беларускай грамадзкасьці. Ня могуць гэтага дамагацца польскі і амэрыканскі ўрады. Калі ўрад убачыць змаганьне за беларускую мову, як змагаліся палякі пад прускай акупацыяй за польскую, у верасьні — страйк у школах, супраціў, тады будзе ў вас беларуская мова. А калі ў вас ня будзе беларускай мовы, дык як тады можна думаць аб будучыні народу? Ён мусіць, перш за ўсё, вярнуць уласную мову. Але гэта залежыць ад вас.

Тут ніякая вонкавая сіла ня можа дапамагчы. З адным выключэньнем. Патрэбна радыёстанцыя на Захадзе, якая была б для беларусаў тым самым, чым «Вольная Эўропа» для палякаў. Яна не павінна змагацца з тым, хто сёньня ля ўлады. Галоўнае — вярнуць нацыянальны гонар, даць зразумець сваю гісторыю, якая мела выдатныя карты. Польскі кароль Уладзіслаў Ягайла размаўляў па-беларуску! Беларуская была мовай эліты Вялікага Княства Літоўскага. Беларусы маюць чым ганарыцца.

Задачай такой радыёстанцыі ня ёсьць бягучае палітычнае змаганьне — «Вольная Эўропа» бес перапыннна гаварыла аб гісторыі. Тады як у падручніках яна была зьнявечаная. Трэба, каб беларусы ганарыліся сваімі гістарычнымі дасягненьнямі, сваімі вялікімі людзьмі.

Што рабіў я на радыё? Рабіў усё, каб здабываць зьвесткі аб тым, што робіцца ў Польшчы. Там я ня меў аніякай сеткі карэспандэнтаў. Нельга было. Я не хацеў, каб гэта для кагосьці скончылася паказальным судовым працэсам. Бо на якую халеру было ламаць лёсы самых вартых людзей? Зьбіраньне паведамленьняў адбывалася праз вывучэньне прэсы, радыё. Прыязджалі людзі з Польшчы. Мы мелі сетку карэспандэнтаў у заходніх краінах Эўропы.

**Даўгахвалевыя мэты**

Каб сьвет мог дапамагчы беларусам, самі беларусы мусяць дапамагаць сабе. Чаму амэрыканцы так цікавіліся Польшчай? Бо Польшча ўпарта змагалася за дэмакратызацыю. Не за дэмакратыю, а за дэмакратызацыю — паступовую. Значыцца, было што падтрымліваць. Палякі змагаліся за дэмакратызацыю крок за крокам: 1956-ы, 1970-ы і далей былі крокамі да дэмакратызацыі. Сытуацыя ніколі не паварталася назад.

Але я не магу вам радзіць, гаварыць: рабіце тое, што палякі рабілі. Вашыя ўмовы іншыя. Важныя «даўгахвалевыя» мэты. Так, сёньня нашыя апанэнты маюць перавагу, дыктуюць умовы. Але мы будзьма працягваць тое, што робім.

Калі я ўбачыў у Горадні помнік Леніну, падумаў: я знаходжуся ў Савецкім Саюзе ці ў незалежнай беларускай дзяржаве?.. Але пачакайце. Кожны год існаваньня сваёй асобнай дзяржавы — гэта выйграная лятарэя. Чым даўжэй яна будзе трываць, тым болей людзі будуць усьведамляць, якая гэта вялікая каштоўнасьць — уласная дзяржава. Кожны год гэтай дзяржавы — вельмі і вельмі важны для вас. Але таксама і для Польшчы, і для Злучаных Штатаў.

**Я сэрцам і думкамі з вамі...»**

Падрыхтавалі Сяргей Максімовіч, Антон Лабовіч-"Наша Ніва"

************************************************

## Юры Хадыка ўвайшоў у аргкамітэт па правядзеньні Народнага Маршу «За лепшае жыцьцё!»

*Намесьнік старшыні БНФ "Адраджэньне", прафэсар Юры Хадыка ўвайшоў у склад арганізацыйнага камітэту па правядзеньні 12 сакавіка Народнага маршу "За лепшае жыцьцё!". Такім чынам, Народны марш падтрымала партыя БНФ "Адраджэньне".*

**-- Юры, як Вы ацэньваеце сацыяльна-эканамічнае становішча ў краіне?**

-- Яно пагаршаецца, і з кожным днём гэта ўсё больш відавочна. Хаця, так бы мовіць, павышэньня ўсіх платаў за камунальныя паслугі і трэба было чакаць, бо гэта цалкам натуральны крок. Ненатуральна толькі тое, што адначасова з гэтым у нас не адбываецца рэфармаваньне эканамічных адносінаў. І таму людзей заганяюць проста ў кут, і напружаньне, вядома, у грамадзтве расьце, і акцыю, якая заплянаваная на 12 сакавіка, Фронт і я асабіста, лічым цалкам натуральнай, і мы будзем падтрымліваць яе.

**-- Некаторыя палітычныя дзеячы выступалі супраць правядзеньня маршу, бо на іх думку, акцыя непасрэдна напярэдадні Дня Волі можа замяніць правядзеньню масавай акцыі ў дзень 85-годзьдзя Беларускай Народнай Рэспублікі. Якая вашая пазыцыя па гэтым пытаньні?**

-- Так, такія меркаваньні існавалі, але калі мы абмяркоўвалі гэтую праблему, то вырашальным быў той факт, што гэтая акцыя разьлічаная на трошкі іншае кола людзей, і што акцыю сацыяльнага пратэсту практычна немагчыма аб'яднаць з акцыяй сьвяточнай, акцыяй у гонар гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі. Трэба вітаць любую ініцыятыву, якая накіраваная на тое, каб уцягнуць у грамадзкае жыцьцё і акцыі пратэсту як мага большае кола людзей.

**-- Як навукоўца, што вы можаце сказаць пра становішча, у якім апынуліся беларуская навука і навукоўцы?**

-- Навука зараз перажывае вельмі складаны пэрыяд. Раней навука была разьлічаная на абслугоўваньне дастаткова такі своеасаблівай гаспадаркі, дзе было шмат тэмаў, неўласьцівых для маленькай дзяржавы. Напрыклад, мая лябараторыя абслугоўвала ваенна-прамысловы комплекс, і зараз мы страцілі ўсе магчымасьці працягваць гэтыя дасьледваньні. І гэта тычыцца ня толькі маёй лябараторыі. Акадэмія, як вядома, напалову была задзейнічаная ў рашэньні гэтых праблемаў. А з іншага боку ў навуцы дастаткова доўгі час адбываецца цяглае састарэньне кадраў. Моладзь усё меней і меней ідзе ў навуку, бо, па-першае, звузіліся сфэры дзейнасьці навукоўцаў, па-другое, пласт сталых навукоўцаў замінае кадраваму росту, і, па-трэцяе, вельмі нізкія заробкі. Яны і раней не былі самымі высокімі, а зараз зусім маленькія. І таму многія энэргічныя людзі сышлі ў новыя сфэры дзейнасьці, але самае крыўднае – за апошнія гады павялічыўся адток навукоўцаў за мяжу.

\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^\^

## "Санэты" Янкі Купалы на васьмі мовах

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы ў Мінску адбылася прэзентацыя кнігі народнага паэта Беларусі Янкі Купалы "Санеты" на беларускай, англійскай, іспанскай, нямецкай, польскай, рускай, украінскай і французскай мовах.

Кніга, афармленая мастаком Аляксандрам Цвровым, выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" накладам 2700 асобнікаў.

************************************************

# Культура роднай мовы

**Прафесара, доктара філалагічных навук Паўла Сцяцко добра ведаюць не толькі на Беларусі, але і далёка за яе межамі. Ён сёння самы актыўны і аўтарытэтны навуковец, даследчык праблемаў нацыянальнай культуры і мовы**

Аб гэтым сведчаць яго друкаваныя працы па культуры мовы і перш за ўсё — дзве яго кнігі: "Праблемы нормы, культуры мовы" (1998) і "Праблемы лексічнага нармавання беларускай мовы" (1999). Згаданыя кнігі атрымалі высокую ацэнку навукоўцаў, пісьменнікаў, выкладчыкаў ВНУ, настаўнікаў, супрацоўнікаў рэдакцый і выдавецтваў

У навукова-творчай кампаніі "Тэхналогія" пабачыла свет яго новая кніга "Культура мовы", дзе на канкрэтным матэрыяле разглядаюцца пытанні адраджэння і натуральнага развіцця беларускай мовы, нармавання яе савецкага варыянту ў галіне фаналогіі і правапісу, марфеміке і словаўтварэння, формаўтварэння і сінтаксісу, а таксама яе лексічнага складу

Кніга "Культура мовы" — гэта карысны дапаможнік для студэнтаў філалагічных факультэтаў, педагагічных вучылішчаў, навучэнцаў ліцэяў, гімназій, вучняў старэйшых класаў агульнаадукацыйных школ, мовазнаўцаў, усіх, хто дбае пра чысціню і натуральнасць беларускай мовы

У кнізе пяць раздзелаўУ іх аўтар вядзе гутарку аб сістэме галосных, аканні і яканні, якому падлягаюць усе спрадвечнабеларускія словы і аб напісанні неславянскіх іншамоўных слоў, а таксама аб праблемах марфемнага і словаўтваральнага нармавання сучаснай беларускай літаратурнай мовыУ раздзеле "Формаўтварэнне і яго фарматывы" аўтар даводзіць да ведама, што галоўнымі паказчыкамі граматычнай формы слова ёсць канчаткі зменных часцін мовы, што найбольш частыя парушэнні моўнай сістэмы наглядаюцца ў выкарыстанні словаформаў з канчаткамі назоўнікаў, формаў ступеняў параўнання прыметнікаў, фарматываў загаднага ладу дзеясловаў. Чытачы знойдуць аргументаваныя адказы са спасылкай на акадэмічныя выданні па мовазнаўству, як патрэбна пісаць наступныя словы ці выразы ў адпаведных склонах: балета ці балету, з'езда ці з'езду, народа ці народу, гадзін ці гадзінаў, краін ці краінаў, у Гомеле ці ў Гомелі...

Раздзел кнігі "Сінтаксічныя нормы і іх парушэнні" прысвечаны будове фразы, што, як сцвярджае аўтар, добра разумелі нашы славутыя майстры слова. Сінтаксіс — гэта душа мовы. І каб глыбока авалодаць чужою моваю, неабходна спасцігнуць яе сінтаксічны лад. Найбольш хібаў бывае ў пабудове фразы, што і адбываецца пры дзвюхмоўі, дзе верх бярэ заўжды валадарная мова. У беларускай мове найчасцей адбываецца калькаванне з расійскай мовы. Аўтар прыводзіць такія прыклады: "Арганізацыя прадае тавары па цэнах, ніжэй рыначных". Гэта рускі тэкст, толькі напісаны па-беларуску. Беларус сказаў бы прасцей і натуральней, а іменна: "Арганізацыя прадае тавары танней, чым на рынку".

Або, нават чытаем у Івана Шамякіна ("Злая зорка"): "Пад крышай грэчка будзе цалей". Тут тэкст пададзены без усякага перакладу, толькі паводле беларускай арфаграфіі, таму што пісьменнік, як гаварыў К.Чорны, "моўна думае па-расійску".

Далей аўтар падкрэслівае, што нават у публікацыі народнай асветы "Билеты для выпускных экзаменов за курс средней школы" напісана: Прачытаць на памяць верш М.Танка (па выбару). А правільна на беларускай мове трэба ж — на выбар.

І яшчэ адзін "цікавы" пераклад — механічна перанесеная з рускай мовы ў беларускую сінтаксічная структура "За цаной не пастаім". Гэта за сцяной можна стаяць. А калі ідзе гаворка пра цану, то беларус скажа так: "Цана мяне не палохае".

У раздзеле прыводзіцца шмат падобных і іншых прыкладаў небеларускіх, штучна скалькаваных сінтаксічных канструкцый з расійскай мовы.

Апошні пяты раздзел кнігі "Лексічнае нармаванне" самы вялікі. У ім аўтар глыбока і аргументавана аналізуе тыя акалічнасці, якія прыводзілі да парушэнняў норм беларускай літаратурнай мовы. За гады савецкае ўлады беларуская мова шмат страціла з свае лексічнае адметнасці і самабытнасці. Ідэолагі камунізму накіроўвалі развіццё моваў у адно рэчышча — набліжэння і зліцця іх у адну мову, ствараўся гэтак званы "адзін лексічны фонд грамадска-палітычнай тэрміналогіі", які меўся адлюстраваць гэтак званае "адзінства савецкага народа". Таму і словы мусяць быць аднолькавыя. Навошта, скажам, беларусам мець свае адметныя словы: падлік, супраць, першаснь, калі ёсць усесаюзныя: учот (учёт), проціў (против), пярвічны (первичный) і інш. Пасля гэтага літаратурная мова ператваралася ў беларуска-рускую "трасянку". Яна нават актыўна замацоўвалася ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (1977-1984) і ў двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" (1988 -1989).

Некаторыя газеты і часопісы і сёння яшчэ парушаюць лексічныя нормы беларускай літаратурнай мовы, спасылаючыся на гэтыя слоўнікі.

Далей у кнізе падаюцца артыкулы з адпаведнымі словамі. Напрыклад: крама і магазін; марозіва і марожанае; экзамен і іспыты; кій, кульбака і посах; вернік — а не веруючы; збожжа і збажына — а не хлеб і хлябы; паліва — а не гаручае; асобнік, паасобнік і экземпляр і інш.

Мова — гэта асноўны носьбіт культуры, душа народа, сродак зносін, гэта неацэнны скарб, які належыць усяму чалавецтву. Культура, адукаванасць і кругагляд кожнага чалавека вызначаецца веданнем ім колькасці іншых моваў.

Наш абавязак — шанаваць, вывучаць, удасканальваць і прапагандаваць беларускую літаратурную мову, ганарыцца ёю, садзейнічаць яе развіццю і росквіту.

І выдатным дарадчыкам у гэтай высакароднай справе, безумоўна, будзе кніга Паўла Сцяцко "Культура мовы".

Пётр МАРЦІНОЎСКІ, в. Дзярэчын Зэльвенскі раён

**************************************************

Ларыса ЦІМОШЫК /Звязда/

# ПАД НАШУ ДУДКУ...

Легендарны спявак Баян праслявіўся на вякі, і гэта пры тым, што шоу-бізнэсам тады і не пахла. Сёння якіх толькі конкурсаў няма, абы толькі сэрца радавалася, у грудзях замірала: добра спяваюць, нашы спяваюць... Славутае «Еўрабачанне» пакуль такой магчымасці беларусам не давала.

Беларускае тэлебачанне будзе сёлета трансліраваць конкурс «Еўрабачанне» з Латвіі, хоць удзельніка з нашай краіны ў ім яшчэ не будзе. Пра гэта паведаміў дырэктар канцэртна-прадзюсарскай дырэкцыі БТ-1 Геральд Авакаў.

Цікавасць да гэтага конкурсу ў Беларусі даволі вялікая. І была надзея пабачыць на ім якога-небудзь нашага артыста ўжо ў 2003 годзе, нават у прэсе ішло бурнае абмеркаванне таго, хто мог бы стаць першапраходцам. Тым не менш, надзея гэта сёлета не спраўдзіцца, і на тое ёсць канкрэтныя прычыны. Галоўная з іх заключаецца ў тым, што колькасць удзельнікаў на «Еўрабачанні» заўсёды была абмежаваная, таму далёка не ўсе краіны, якія гэтага жадалі, маглі даслаць свайго прадстаўніка. Конкурс 2003 года пройдзе яшчэ па старых правілах. Затое ўжо ў 2004-м яны зменяцца на нашу карысць. Ніводная з краін, якія пададуць заяўкі на ўдзел у «Еўрабачанні-2004», не будзе выключана з ліку ўдзельнікаў.

Неабходнасць змен у арганізацыі конкурсу выклікана тым, што колькасць краін, якія жадаюць бачыць сваіх прадстаўнікоў на конкурсе, пастаянна расце. Як апошнім часам вырасла і колькасць еўрапейскіх краін увогуле. Таму праз год мы ўбачым фестываль «Еўрабачанне» ў новым абліччы, і трансліравацца ён будзе на працягу двух вечароў, а не аднаго, як раней. Менавіта тады мы пабачым першага беларускага прадстаўніка на гэтым прэстыжным конкурсе.

Хто гэта будзе і чаму? — на гэтыя пытанні павінна будзе адказаць спецыяльнае нацыянальнае журы конкурсу. Тут таксама трэба ўзгадаць правілы. І, згодна з імі, песня, якая выбіраецца для «Еўрабачання», павінна прайсці праз адмысловы нацыянальны конкурс. Не столькі сам выканаўца, колькі менавіта песня і вызначае поспех на гэтым конкурсе... А хто ж супраць таго, каб імёны нашых артыстаў прагучалі на ўсю Еўропу? Таму справа гэта вартая ўвагі на самых высокіх дзяржаўных узроўнях.

«У дадзеным выпадку Белтэлерадыёкампанія, як дзяржаўная ўстанова, узяла на сябе падрыхтоўку па адбору конкурснай песні, таму што ў «Еўрабачання» ёсць свае правілы, — патлумачыў намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Рылатка. — У Беларусі менавіта Белтэлерыдыёкампанія з'яўляецца членам Еўрапейскага вяшчальнага саюза, які і арганізоўвае гэты конкурс, таму зацікаўленасць і адказнасць тэлебачання зразумелая. Але мы знаходзімся ў кантакце і пастаянна ў курсе спраў, якія вядуцца па падрыхтоўцы да конкурсу».

Між іншым, менавіта Першы нацыянальны тэлеканал плаціць і ўступны ўзнос — удзел у конкурсе патрабуе пэўных капіталаўкладанняў. Таму БТ-1 не толькі арганізоўвае трансляцыю гэтага конкурсу для беларускіх тэлегледачоў, але, самым непасрэдным чынам зацікаўленае ў тым, каб наш канкурсант выглядаў годна. Для гэтага ёсць нават пэўная база: праз тэлевізійны фестываль «На скрыжаваннях Еўропы» праходзяць бадай усе беларускія спевакі, гурты. Арганізатары тэлевізійнага фестывалю сочаць за тым, якія новыя цікавыя песні з'яўляюцца ў краіне, ці становяцца яны папулярнымі, як яны могуць успрымацца за межамі Беларусі.

Ужо пасля конкурсу ў Латвіі зацікаўленыя асобы маюць намер самым непасрэдным чынам прыступіць да пошуку той самай запаветнай песні. Улетку — на пачатку восені павінны абвясціць пра парадак правядзення нацыянальнага конкурсу песні, якую выбера спецыяльнае журы. Згодна з правіламі «Еўрабачання», у яго склад павінны ўвайсці восем чалавек: 4 спецыялісты (музыканты, выканаўцы) і чатыры грамадскія дзеячы, якія не маюць адносінаў да музыкі. Чацвёра з членаў журы павінны быць ва ўзросце да трыццаці гадоў, а чацвёра — старэйшыя. Але з журы, падаецца, праблем не будзе, бо ёсць жа яно на фестывалі «На скрыжаваннях Еўропы».

Праблемы ўзнікнуць для журы, калі пачнецца прагляд і праслухоўванне аўдыё- і відэазапісаў з песнямі. Менавіта па іх і будуць выбірацца песні ў фінальны тур. Колькасць «фіналістак» будзе напрамую залежаць ад іх якасці. Канешне, хацелася б, каб у песні, якую першы раз прадставіць Беларусь, адчуваўся пэўны нацыянальны каларыт.

З тымі творамі, якія атрымаюць высокую ацэнку журы, змогуць пазнаёміцца ўсе. У рамках праграмы «На скрыжаваннях Еўропы» адбудзецца канцэрт, падчас якога беларускія тэлегледачы змогуць вызначыцца наконт песні, якая найбольш спадабалася, і аддаць за яе голас. У выніку і будзе названы пераможца, які паедзе на еўрапейскі конкурс. Прычым гэта не абавязкова павінна быць беларуская зорка. Нават маладым і малавядомым артыстам можа спадарожнічаць поспех. Але інтрыга: хто будзе першы? — толькі пачынаецца. Таму цяпер важна ўпарта заняцца творчасцю. Кампазітарам і паэтам — пісаць, музыкантам — запісваць новыя песні. І нават калі яны не дойдуць да «Еўрабачання», то яўна ўзварухнуць беларускую рэчаіснасць...

**************************************************

# Беларускаму нацыянальнаму універсітэту -- быць!

Старшыня грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алег Трусаў сустрэўся з прадстаўнікамі Адміністрацыі прэзідэнта па пытанні адкрыцця ў Мінску Беларускага нацыянальнага універсітэта (БНУ).

Як паведаміў БелаПАН старшыня ТБМ, абмяркоўваліся праблемы фінансавання, працэдура стварэння, магчымае месца размяшчэння і факультэты навучальнай установы. "Я выказаў пажаданне, каб Беларускі нацыянальны універсітэт быў невялікім, разлічаным на навучанне ад 5 да 7 тысяч студэнтаў, а таксама, каб усе студэнты і выкладчыкі набіраліся толькі на добраахвотнай аснове. Гэта азначае, што ў БНУ павінны выкладаць і вучыцца толькі тыя, хто можа і жадае гэта рабіць на беларускай мове", -- сказаў А.Трусаў.

На яго думку, у навучальнай установе павінен выконвацца беларускамоўны рэжым не толькі ў аўдыторыях, але і ва ўсіх службовых памяшканнях, пачынаючы ад бухгалтэрыі і заканчваючы гардэробам. "Толькі ў такім выпадку нашыя дзеці з беларускамоўных школ змогуць спакойна, без усялякіх праблем атрымліваць вышэйшую адукацыю на роднай мове -- дзяржаўнай мове тытульнай нацыі. Студэнтам БНУ ўжо не давядзецца пісаць заявы дэканам і рэктарам рускамоўных ВНУ аб стварэнні беларускамоўных груп і патокаў, як гэта робіцца зараз", -- адзначыў старшыня ТБМ.

Падчас сустрэчы дасягнута дамоўленасць, што Адміністрацыя прэзідэнта будзе працаваць над пытаннем адкрыцця БНУ і працягне кансультацыі з кіраўніцтвам ТБМ.

А.Трусаў выказаў "асаблівую падзяку" кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта Уралу Латыпаву за арганізацыю гэтай сустрэчы.

Марат ГАРАВЫ. /Нродная Воля/

??????????????????????????????????????????????????

### Увага, Увага, Увага!!!

/Date/

Dear Congressman...

Recently, Congressman Christopher Smith of New Jersey introduced Bill H.R.854 "Belarus Democracy Act of 2003", which is intended to help promote democracy, human rights and the rule of law in Belarus. It also considers sanctions against the dictatorial regime of Alexander Lukashenka. This regime is responsible for the disappearance of a number of political opponents. It recently enacted the most discriminatory law on religion in Europe.

What is even more alarming, it is also a major supplier of arms and training to states that promote terrorism, including Iraq.

I hope that you will support H.R. 854 "Belarus Democracy Act of 2003" and become its cosponsor. Belarus a country where I have friends, deserves to be free and democratic.

Sincerely,
/signature/, Your Name, Address

NOTE: This is a sample letter. Modify it to make it more personal. The point is to get your Congressman to become a COSPONSOR of the Bill. The more cosponsors, the better chance for it to be passed. And do it as soon as possible because the next few weeks are crucial.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# «Ніхто за бусла не лётае...»

**Яна выглядае старэйшай за свой узрост. Нейкая мудрасць, спакой і няспешнасць выдае ў ёй чалавека сталага. Такі «камплімент» яе не крыўдзіць, таму што ёй – 23 гады, і жыццё толькі пачынаецца. У той час, калі ўжо пішуцца варыянты гімна Саюза Расіі і Беларусі, Святлана Нех з упэўненнасцю гаворыць пра будучую незалежнасць нашай краіны.**

Зараз па запрашэнню чэшскага ўрада на спецыяльных падрыхтоўчых курсах у горадзе Падэбрады, што непадалёку ад Прагі, Святлана вывучае чэшскую мову. Яе чакаюць уступныя экзамены ва ўніверсітэт на аддзяленне паліталогіі. Пасля заканчэння навучання яна марыць вярнуцца ў Беларусь, каб будаваць яе будучыню.

Святлана нарадзілася ў Гродне і лічыць яго найлепшым горадам у свеце. Школьныя канікулы праводзіла ў бабулі ў адной са знікаючых вёсак Мастоўскага раёна. Яна выдатна скончыла аддзяленне дашкольнага выхавання гродзенскага педвучылішча. Атрымала на спецыяльных курсах дыплом майстра-арыгаміста, працавала з дзяцьмі-інвалідамі. Як яна сама распавядала, да 1994 года была «ціхім спакойным дзіцём». Калі адбыліся выбары Прэзідэнта, у яе пачаліся праблемы з бацькамі: яны былі за Лукашэнку, Светка – супраць. А праз два гады 24 лістапада адбыўся рэферэндум. І ў гэты дзень – дзень яе нараджэння – яна вырашыла, што не будзе для яе свята, пакуль Беларусь не стане сапраўды дэмакратычнай, свабоднай і незалежнай.

Як далей склалася яе жыццё? Зусім малая яшчэ дзяўчынка спрабавала знайсці людзей, якія б думалі так, як яна.

– Тады па тэлебачанню паказвалі БНФ, бел-чырвона-белыя сцягі. Я гісторыяй цікавілася, яна ў нас вельмі багатая. Некалькі раз прыходзіла ў БНФ, на мітынгі. Але задавала такія пытанні, што мяне адтуль адправілі, казалі, што правакатар, хаця мне і год было вельмі мала...

Мне было крыўдна, таму што мая маці сябравала з паэткай Бічэль-Загнетавай. Карпюк, Быкаў – я іх добра памятаю. А ў БНФ крычалі пра «саўковасць», якая гісторыі і мовы не ведае. Я вырашыла, што ў мяне з імі розныя дарогі. Потым ужо ў вучылішчы сустрэлася з людзьмі, якія прывялі мяне ў Маладую Грамаду.

– Маладая Грамада – гэта непалітычная арганізацыя?

– Першы пункт у статуце, які мы адстойвалі ў Мінюсце пры перарэгістрацыі – гэта тое, што Маладая Грамада прытрымліваецца сацыял-дэмакратычных каштоўнасцяў – свабоды, справядлівасці, роўнасці – гэтыя рэчы, якія акрэсліваюць палітычны накірунак дзейнасці. Сфера дзейнасці – моладзь.

– Ці маеш ты дачыненне да сацыял-дэмакратычнай партыі?

– Так, я ўваходжу ў рэспубліканскае кіраўніцтва аб'яднанай сацыял-дэмакратычнай партыі, якую ўзначальвае Валянціна Палевікова. Была абрана ў мінулы год у Раду Маладой Грамады, а яшчэ ў Маладой Грамадзе ўваходжу ў рэвізійную камісію рэспубліканскай арганізацыі.

– У апошні раз мы бачыліся з табой каля будынка суда. Гродзенская газета «Пагоня» была забаронена, яе журналістаў Маркевіча і Мажэйку асудзілі. Я бачыла, як гэта цябе хвалюе, што твой пратэст – гэта глыбока асабістая справа, што турбота твая не залежыць ад партыйнасці, яна шчырая, ідзе ад усяго сэрца. Ты ўдзельнічала ў пікетах і мітынгах пратэсту ўвесь час у першых шэрагах.

– Так адбывалася. Я чалавек актыўны, мая энэргія не дазваляе мне заставацца абыякавай да ўсяго, што адбываецца вакол мяне. Я не ўмею стаяць у баку. Шмат людзей з'язджае з краіны, таму што не бачыць перспектывы. А я хачу, каб яна была ў Беларусі – у мяне і маіх сяброў. Гэта шаленства і вар'яцтва, калі ў сваёй краіне ты не можаш жыць. А за мяжой не кожны вытрымае, я гэта ведаю. Ведала і раней, але зараз у гэтым проста перакананa.

– Але ты паехала з Гродна.

– Мне ў Гродна ўжо не давалі магчымасці працаваць, прапанавалі адыйсці з працы ціха. Дырэктарка Палаца моладзі распавядала мне, што да яе прыходзілі і казалі, што ваша супрацоўніца Света Нех ходзіць на нейкія мітынгі. Я тады адказала, што мой вольны час – гэта мая справа, што чалавек мае права сам выбіраць свой шлях. Але вымушана была звольніцца з працы «па асабістаму жаданню».

– Ведаеш, што аднойчы казалі супрацоўнікі міліцыі тваёй маці, калі ты адбывала свае 10 сутак за ўдзел у несанкцыянаваным пікеце: «Вы не хвалюйцеся, мы да яе добра ставімся, можа Светка яшчэ нашым Прэзідэнтам стане».

– У гадавіну знікнення Дзімы Завадскага мы выйшлі ў падтрымку, каб паказаць, што для нас гэта неабыякава. Мяне выклікалі ў суд. У нас тады быў летнік для падлеткаў на Аўгустоўскім канале, я там працавала. Не было ніякага аўтобуса, мне прыйшлося ісці пешшу. Я прынцыпова нікому не казала, што буду ў судзе. Ведалі толькі некалькі чалавек. У мяне былі канфлікты з прадстаўнікамі БНФ, таму што гэта агульная паказуха...

– Аб гэтым можна гаварыць?

– Я думаю, так. Таму, што калі ўсе крычаць, што, ўвесь поспех зрабіла БНФ, а ўсе астатнія – «не нашы людзі». Мне не хацелася, каб на сваіх пасяджэннях яны казалі, што яны адзіныя, хто прыйшоў падтрымаць Святлану Нех.

– Ты прайшла чатырнаццаць кіламетраў пешшу на ўласны суд і нікому не казала, што ён адбудзецца?

– Мае калегі з Грамады ведалі, але не маглі пакінуць дзяцей у летніку. За мяне хваляваліся і мае выхаванцы, іх таксама нельга падманваць.

– Колькі ім год?

– Ім ад 13 да 15. Яны спадзяваліся, што для мяне ўсе скончыцца добра, што беларускі суд – самы гуманны суд у свеце. На гэта яны мелі надзею. Але надзею гэту яны згубілі.

– А як ты апынулася ў Чэхіі?

– Гэтая прапанова ад чэшскага ўрада была яшчэ два гады таму, перад прэзідэнцкімі выбарамі. Я вырашыла тады: калі ў нас усё атрымаецца, абярэм іншага прэзідэнта дэмакратычна, то я буду вучыцца ў Беларусі, а калі не – паеду ў Чэхію. Жадаючых вучыцца было каля 300 чалавек. Трэба было прайсці агульна-адукацыйны тэст. Фактычна я да яго не рыхтавалася, але адказала на ўсе пытанні. Было даволі складана. Пакуль нам даецца адзін год для вывучэння мовы, вучым гісторыю Чэхіі. Усё выкладаецца на чэшскай мове.

– Куды ты жадаеш паступіць?

– Хачу вучыцца ў Карлавым універсітэце, альбо ў Брно. Я магу падаваць дакументы адначасова ў розныя ўстановы. Хачу паступіць на аддзяленне паліталогіі. Спачатку гэта будзе пісьмовы экзамен – чэшская мова, агульная гісторыя, сусветная гісторыя, геаграфія, усё, што звязана з Чэхіяй. На зімовай сесіі нам давалі прыклады 50 пытанняў, якія магчыма сустрэнуцца на ўступных экзаменах. Як казаў нам выкладчык, ён і сам без спецыяльнай падрыхтоўкі не ведае паловы адказаў.

– Напрыклад?

– Даюцца прозвішчы трох мастакоў, трэба адказаць, хто з іх прыдумаў макет еўра. Прапануюцца тры адказы на пытанне, прычым усе тры могуць быць падманнымі. Экзамены мы будзем здаваць нараўне з чэхамі.

– Чэшская мова цяжка даецца?

– Вельмі цяжкая граматыка, своеасаблівая, шмат правілаў і яшчэ больш выключэнняў.

– За чый кошт ты вучышся, ці атрымліваеш стыпендыю, альбо сама за ўсе плаціш?

– Мне плацяць стыпендыю – пяць тысяч чэшскіх крон, прыблізна 150 долараў. З гэтых грошаў трэць вылічваюць за пражыванне.

– Ці ёсць праблемы?

– Я, напрыклад, вегетарыянка, а чэшская кухня вельмі цяжкая для страўніка. Ад мяне нават патрабавалі даведку ад доктара. Мне здаецца, што ўся дэмакратыя скончылася на мяжы Прагі. Быў такі выпадак, што дзяўчына размаўляла па-руску, за гэта ёй ударылі ў твар, зламалі нос, казалі: бальшавікі, з'язджайце дадому.

– Я разумею, што гэта выключны выпадак. Ці ўвогуле па гэтым можна судзіць аб адносінах чэхаў?

– Большасць, канешне, ставіцца да нас добра. Я была на дэманстрацыях супраць НАТА, гэта было ў Празе, на мне быў значак «Пагоня», па ім пазнавалі, што я з Беларусі.

– З кім разам ты жывеш у пакоі?

– З дзяўчынай з Лацінскай Амерыкі. Яе завуць Лаўра, яна хоча быць інжынерам.

– Колькі год патрэбна вучыцца на палітолага?

– Пяць-шэсць гадоў. Потым я хачу вярнуцца на Беларусь. Я лічу, што адукаваныя людзі будуць патрэбны маёй краіне. Паліталогія – гэта веданне палітычных працэсаў, вывучэнне палітычных накірункаў, дзейнасці палітычных партый, ідэалогій, міжнародных адносін. Я хачу зрабіць палітычную кар'еру. Некаторыя студэнты паціскаюць мне руку і гавораць: «Добры дзень, будучы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь».

Я хачу кіраваць дзяржавай. Можа не ў якасці прэзідэнта, але гэта мая мэта. Палітолаг павінен рабіць аналіз, даваць прагноз на будучыню, парады, што рабіць, як рабіць. Гэта таксама вельмі важна, таму, што мы ў свой час нарабілі шмат памылак. І зараз робім, таму што палітычна неадукаваныя.

– Ты бачыш гэтыя памылкі?

– Я, канешне, яшчэ не палітолаг, а толькі спрабую ім стаць. Але на сённяшні дзень фактычна ўся апазіцыя настолькі адарвалася ад народа, што не бачыць праблемы асобнага чалавека. Некаторыя постаці нешта спрабуюць рабіць. А палітычныя партыі толькі робяць афіцыйныя заявы, якія нават не выконваюцца. «Наша партыя супраць усіх – супраць апазіцыі, супраць улады» – гэта значыць, што хутка яна будзе і супраць народа. Настолькі яны адарваны ад рэальнага жыцця.

– Якой на твой погляд павінна быць улада ў нашай краіне?

– У свеце ёсць добрыя прыклады: народ абірае толькі Сойм. Прэзідэнта павінен абіраць парламент. Прэзідэнт можа быць прадстаўніком культуры, мастацтва, і функцыя ў яго толькі прадстаўнічая. А вырашае ўсё парламент, каб рашэнні прымаліся дэмакратычна.

– Што думаеш наконт саюза з Расіяй?

– Мы гэтае пытанне абмяркоўвалі ў Чэхіі з маімі расійскімі сябрамі. Беларусь заслугоўвае самастойнасці.

– Ці яны разумеюць, што мы іншы народ?

– Усе грамадзяне Беларусі – беларусы, палякі, літоўцы, габрэі, рускія, украінцы – мы жывем у дзяржаве, якая мае правa на незалежнасць. Аб гэтым гаворыць наша Канстытуцыя.

Былі спрэчкі, ішлі размовы пра агульныя межы, агульныя славянскія карані. Але сёння ўжо большасць з іх кажа, лепш ты будзеш нашым сябрам і хай жывеш у іншай краіне, мы будзем з табой сябраваць. Я не хачу аніякага палітычнага саюза. Мы павінны ўстаць на ногі, таму што ніхто за бусла не лётае, ён сам раскрывае свае крылы і ляціць.

– Ты марыла прыехаць у Гродна на канікулы ?

– Дамоў вельмі хацелася, я ўсе рэчы загадзя сабрала, для мяне пераезд мяжы быў сапраўдным святам, я – дома. Прага вельмі падобная на Гродна, такія ж утульныя вузенькія вулачкі. Але ў Празе няма такой вуліцы, як Ажэшка.

– Чаго нам усім не хапае на твой погляд?

– Калі я пабыла там, я зразумела, што самае галоўнае для чалавека – гэта стабільнасць. Калі чалавек можа спакойна жыць і ведаць, што будзе заўтра. Большасць з тых, з кім я сустракалася, калі прыехала, жывуць толькі сённяшнім днём. Гэта жахліва, так быць не павінна. Трэба жыццё ладзіць там, дзе ты жывеш, дзе ты нарадзіўся, дзе твой дом.

Я хачу, каб усе жылі спакойна і маглі планаваць сваю будучыню і будучыню сваіх дзяцей. Гэта мае пажаданні: спакой і стабільнасць.

У апошні час шмат разважаюць і пра гендэрную няроўнасць, існуючую на Беларусі, і пра абмежаванне ўдзелу жанчын у палітычным жыцці. Але вось вам прыклад: дзяўчына, якая жадае займацца палітыкай.

Можа трэба гаварыць пра іншае: наша пакаленне пакідае сваім нашчадкам столькі грамадскіх праблем. Сапраўды, краіна згубіла шмат часу. І сэрца баліць ад таго, што аб лёсе Беларусі вымушаны клапаціцца зусім яшчэ маладыя людзі. Адзінае, што можа апраўдаць нас, старэйшых – мы выгадавалі добрых дзяцей.

З надзеяй на будучыя спакой і стабільнасць пажадаем гарадзенскай дзяўчыне Святлане Нех здзяйснення яе мараў.

Наталля МАКУШЫНА (Біржа інфар.)

# Беларусы Літвы аб'ядноўваюцца з беларусамі іншых краін Балтыі

/БЕЛТА/. Песняй "Такія мы ёсць, беларусы", якую выканаў хор навучэнцаў Віленскай сярэдняй школы ім. Ф.Скарыны, у Польскім культурным цэнтры літоўскай сталіцы ўрачыста адкрыўся II з'езд Аб'яднання грамадскіх арганізацыяў беларусаў Літвы. Гэта аб'яднанне, пераадолеўшы супярэчнасці паміж беларускімі грамадскімі і культурна-асветнымі арганізацыямі, якія адраджаюцца, утварылася ў 1996 годзе....

У справаздачным дакладзе прэзідэнт аб'яднання заслужаны дзеяч мастацтваў Літвы Лявон Мурашка адзначыў, што за мінулыя чатыры гады беларускія грамадскія арганізацыі значна актывізаваліся ва ўсіх буйнейшых гарадах і раёнах Літвы, дзе кампактна жывуць беларусы. А іх у Літве амаль 65 тысяч...

На II з'ездзе адбылася размова і аб тым, як трэба будзе працаваць пасля ўступлення Літвы ў Еўрасаюз і НАТА, як без урону для сваіх нацыянальных традыцый і для свайго менталітэту інтэгравацца ў грамадзянскае грамадства не толькі Літвы, але і Еўрасаюза. Гэтыя новыя абставіны прывялі арганізацыі беларусаў Літвы да думкі аб неабходнасці аб'ядноўвацца са сваімі суайчыннікамі, якія пражываюць у суседніх краінах і звязаны адзіным лёсам. Прадстаўнічыя дэлегацыі беларускіх грамадскіх арганізацый з Латвіі, Эстоніі і Кэніксбэрскай вобласці, якія прысутнічалі на форуме, гэту ідэю падтрымалі, падпісалі Заяву аб намерах больш цесна супрацоўнічаць у рэгіянальным маштабе, утварылі Кансультатыўную раду і паставілі перад сабой задачу стварыць Асацыяцыю грамадскіх арганізацыяў беларусаў Балтыйскіх краін...

Дэлегаты выбралі новы склад савета і праўлення аб'яднання. Прэзідэнтам яго на новы, ужо трэці тэрмін, адзінадушна перавыбраны вядомы ў Літве грамадскі і культурны дзеяч Лявон Мурашка.

***********************************************

# З ПСІХАЛОГІЯЙ ПА ЖЫЦЦІ

***Імя Якава Львовіча Каламінскага добра вядома не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. Яго навуковыя працы вылучаюцца сваёй актуальнасцю. Выступленні прафесара можна прачытаць у перыядычным друку, часопісах, пачуць па радыё і тэлебачанні. Аднак працоўны шлях Я.Л. Каламінскага непарыўна звязаны з нашым педагагічным універсітэтам. Напярэдадні юбілею БДПУ, Якаў Львовіч, нягледзячы на сваю занятасць, знайшоў час і завітаў у рэдакцыю газеты "Настаўнік", каб расказаць пра сябе, сваю сям'ю, дачку і ўнукаў.***

* * *

Нарадзіўся я ў Нароўлі Гомельскай вобласці. Памятаю, як у дзяцінстве мы ездзілі ў Чарнобыль на параходзе. Вандроўка была цудоўнай. Мясціны ў нас сапраўды прыгожыя. Вельмі шкада, што пасля чарнобыльскай трагедыі мой родны кут увайшоў у зону небяспекі. У Нароўлі я скончыў сярэднюю школу. Дарэчы, там вучыўся, пазней дэкан гістарычнага факультэта Уладзімір Васільевіч Тугай. Здараюцца ж такія супадзенні! З вучобай у школе ў мяне звязаны самыя прыемныя ўспаміны. Быў я і сакратаром камсамольскай арганізацыі, і старастам літаратурнага гуртка. А сваіх настаўнікаў успамінаю з вялікай любоўю і ўдзячнасцю. Яны сапраўды працавалі самааддана. Быў у мяне і любімы педагог — Барыс Навумавіч Хандрас. Некалькі гадоў назад ён прыязджаў у Мінск і выступаў перад нашымі студэнтамі.

Мая мама працавала загадчыцай раённай бібліятэкі. Таму можна сцвярджаць, што я вырас сярод кніг. Пасля заняткаў у школе заўсёды спяшаўся да яе на работу. А там мяне чакала цудоўнае падарожжа ў краіну ведаў. Захапленне кнігай засталося на ўсё жыццё. Калі пачалася вайна, нашу сям'ю эвакуіравалі ў Туркменію. Там мама працавала выхавальніцай у дзіцячым садку. Пасля вайны вярнуліся на радзіму ў Беларусь.

У мяне два браты і сястра. Малодшы – Навум – таксама прафесар, загадчык кафедры псіхалогіі і менеджменту ў Кіеве ў Акадэміі кіравання. Старэйшы брат – Аркадзь – доўгія гады працаваў дырэктарам школы на Гродзеншчыне. Зараз ён жыве ў Нью-Йорку. Сястра Ева жыве ў Мінску. Яна ўжо на заслужаным адпачынку.

Яшчэ ў школьныя гады я пачаў пісаць нарысы, замалёўкі, апавяданні. Думаў і далейшае сваё жыццё звязаць з літаратурнай дзейнасцю або журналістыкай. Калі скончыў школу, марыў паступіць у БДУ на факультэт журналістыкі. Але ў тыя гады быў вельмі абмежаваны набор студэнтаў (дзейнічаў так званы 5-ы пункт). А вось рэктар педагагічнага інстытута імя М.Горкага Іван Емяльянавіч Лакін прапанаваў мне паступіць на педфак, які рыхтаваў выкладчыкаў педагогікі і псіхалогіі. Адразу з першага курса я стаў займацца ў навуковых гуртках. Выступаў перад студэнтамі з дакладамі. Памятаю нават, як называўся мой першы навуковы даклад "Закон сілы ў вучэнні Паўлава аб вышэйшай нервовай дзейнасці". Тады я зразумеў, што галоўнай навукай майго жыцця стане псіхалогія. Так я зрабіў свой прафесійны выбар. Псіхалогія, дарэчы, такі прадмет, які можа задаволіць любое тваё захапленне, інтарэс, патрэбу. Падабаецца мастацтва – займайся псіхалогіяй мастацтва, хочаш вывучаць духоўны свет чалавека – вывучай псіхалогію пазнання асобы і г.д. Маё студэнцкае жыццё было цікавым і запамінальным. Давялося спяваць у хоры, танцаваць, чытаць вершы са сцэны. Жылі, як кажуць, цікава і разнастайна.

Пасля заканчэння інстытута выкладаў педагогіку і псіхалогію ў Навагрудскім педвучылішчы. А калі яго закрылі, стаў працаваць выхавальнікам школы-інтэрната N17 Мінска. І вось тут фактычна пачаліся мае навуковыя даследаванні. Цікава і адказна было працаваць з дзецьмі. Але я выбраў шлях у навуку. Паступіў у аспірантуру на спецыяльнасць "Псіхалогія" і абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму "Вопыт псіхалагічнага вывучэння ўзаемаадносін паміж вучнямі ў класе". Безумоўна, у аснову гэтай працы былі пакладзены асабістыя назіранні і вопыт работы ў школе.



*Якаў Львовіч КАЛАМІНСКІ – доктар псіхалагічных навук, прафесар, правадзейны член Беларускай акадэміі адукацыі, Міжнароднай акадэміі навук вышэйшай школы (Масква), Міжнароднай акмеалагічнай акадэміі (Санкт-Пецярбург), Балтыйскай педагагічнай акадэміі, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь, галоўны рэдактар часопіса "Псіхалогія" (Мінск). Я.Л. Каламінскі апублікаваў звыш 400 навуковых, вучэбных і навукова-папулярных прац, многія з якіх перакладзены на іншыя мовы (30 замежных выданняў на 16 мовах).*

Са сваёй жонкай Адай Каламінскай я пазнаёміўся на першым курсе. Яна тады вучылася ў 10 класе жаночай школы N12, якая размяшчалася ў будынку, дзе зараз знаходзіцца музычна-педагагічны факультэт. У гэтай гімназіі мы, студэнты-першакурснікі, давалі шэфскі канцэрт. Я заўважыў сімпатычную дзяўчыну, але ніколі не думаў, што сустрэну яе першага верасня на сваім факультэце. Для сябе вырашыў, што гэта вельмі добры знак. А яна на мяне асаблівай увагі не звяртала. Я быў просты нароўлянскі юнак, прычым зусім не модны. Але мае настойлівыя заляцанні далі станоўчы вынік. Мы гадзінамі маглі стаяць ля акна ў інстытуцкім калідоры, хадзілі, узяўшыся за рукі. На нашым факультэце нам па-добраму зайздросцілі. А калі мяне размеркавалі ў Навагрудак пасля заканчэння інстытута, мы распісаліся. Я паехаў працаваць у педвучылішча, а Ада заканчвала пяты курс. Доўгі час яна працавала настаўніцай, а калі на радыё аб'явілі конкурс дыктараў, з поспехам перамагла сваіх канкурэнтаў і стала працаваць на Беларускім радыё. Сваю новую працу вельмі любіла. І аддала ёй 22 гады. Зараз яна на заслужаным адпачынку.

Дачка Вольга Якаўлеўна Каламінская пайшла па маіх слядах. Яна таленавіты псіхолаг, кандыдат навук. Займаецца псіхалагічнымі трэнінгамі, псіхатэрапіяй. У яе дзве дачкі, мае любыя ўнучкі Каця і Даша. У іх – сэнс усяго нашага з жонкай жыцця. Дзяўчынкам 15 гадоў. Цікавы ўзрост, мы з імі абмяркоўваем розныя тэмы. Але пакуль што ўнучкі гавораць, што псіхолагамі не будуць. Спадзяюся, што іх пагляд зменіцца. Я памятаю, як дачка ў 8-м класе прыйшла пасля заняткаў дадому і пытаецца: "Тата, а псіхолагі патрэбны народу? У нашай школе вісіць плакат "Гэтыя прафесіі патрэбныя народу", а ў пераліку прафесій псіхолагаў няма..."

Сям'я дачкі жыве недалёка ад нас. Яны частыя госці, а ўнучкі прыходзяць да нас амаль кожны дзень. Любім збірацца разам, абмяркоўваем розныя падзеі, дзелімся сваімі праблемамі, раімся. Дружная сям'я ў жыцці – гэта вельмі вялікая справа.

У вольны час, калі ён выпадае, люблю пісаць. Пішу на розныя тэмы. Шырокую вядомасць атрымалі мае навукова-мастацкія кнігі "Чалавек сярод людзей", "Гутаркі аб тайнах псіхікі", "Спазнай самога сябе", "Чалавек: псіхалогія" і інш.

**Л. ВЫСОЦКАЯ.**

* * *

*Ад рэдакцыі: эксперыментальныя і тэарэтычныя даследаванні Я.Л. Каламінскага паклалі пачатак новых галін псіхалагічнай навукі – узроставай і педагагічнай сацыяльнай псіхалогіі, а таксама псіхалагічнай культуралогіі. Пад яго кіраўніцтвам створана адпаведная навуковая школа (абаронена каля 40 кандыдацкіх і 5 доктарскіх дысертацый).*

# І ўсё-такі прызналі...

Беларускі парлямэнт сёньня стаў паўнапраўным чальцом Парлямэнцкай Асамблеі Арганізацыі па Бясьпецы й Супрацоўніцтву ў Эўропе.

Паводле некаторых камэнтатараў, такое рашэньне стварае пагрозу для разьвіцьця дэмакратыі ў Беларусі. Як сказаў Андрэй Савіных – намесьнік дырэктара Дэпартамэнту Інфармацыі МЗС Беларусі - гэтае рашэньне стала вынікам дыялёгу паміж афіцыйным Менскам ды венскай штаб-кватэрай АБСЭ. Нацыянальны Сход, створаны Аляксандрам Лукашэнкам пасьля канстытуцыйнага рэфэрэндуму 1996 году, ня быў прыняты ў Парлямэнцкую Асамблею АБСЭ. Прадстаўніком Беларусі ў гэтай структуры быў Вярхоўны Савет 13-га скліканьня, паўнамоцтвы якога аднак закончыліся ў 2000-м годзе. З таго моманту адным з галоўных заданьняў беларускай дыплёматыі было прыняцьцё Нацыянальнага Сходу ў якасьці чальца Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ. Паводле беларускага палітоляга Уладзіміра Падгола, рашэньне пра прыняцьцё Нацыянальнага Сходу ў ПА АБСЭ можа прычыніцца да расквіту таталітарызму ў Беларусі. Як сказаў Падгол, цяпер афіцыйны Менск пачне сьцьвярджаць, што ён прызнаны эўрапэйскімі краінамі й, такім чынам, будзе працягваць антыдэмакратычную палітыку.

Магчыма, што беларускія ўлады не ўвядуць візаў для грамадзянаў Польшчы.

Як неафіцыйна даведалася Польскае Радыё, Варшава запрапанавала Менску ня ўводзіць візаў, а за гэта грамадзяне Беларусі атрымлівалі-б бясплатныя візы. Сёньня ў Варшаве праходзяць беларуска-польскія кансультацыі адносна ўвядзеньня візавага рэжыму. Паводле прадстаўніка беларускага МЗС Андрэя Савіных, на дадзены момант разглядаюцца ўсе магчымасьці. У сувязі з уступленьнем у Эўрапэйскі Зьвяз зь 1 ліпеня Польшча ўводзіць візы для грамадзянаў Беларусі, Расеі ды Украіны.

********************************************

## Rutgers University Libraries Establish New Collecting Focus on Belarusian Culture and Communities

Belarus today is an independent country. It has five neighbors: Poland to the west, Lithuania to the northwest, Latvia to the north, Russia to the north and east, and Ukraine to the south. The Belarusians are a Slavic people with an old culture. Belarus is inhabited also by a number of national minorities: Russians, Poles, Ukrainians, Tatars, Jews, and others. Hundreds of thousands of immigrants from Belarus live in the United States. One of their greatest concentrations is in the state of New Jersey. It is therefore fitting that we set out to document the life and cultural achievements of this people in its original and adopted environment.

The Libraries recently laid the cornerstone for the collection with two important acquisitions. The family of the late, published poet and community activist of Milltown, NJ, *Janka Zolak* (pseudonymn of Anton Danilovich), has generously donated his papers and books documenting nearly fifty years of literary and political activity, most of it in New Jersey. We are also indebted to *Dr. Jan Zaprudnik* of Somerset, NJ, the author of two books in the Rutgers University Libraries: *Belarus : At a Crossroads in History* (Boulder: Westview Press, 1993) and *Historical Dictionary of Belarus* (Lanham: Scarecrow, 1998), for the donation of his fine collection of books on Belarus, his papers documenting more than thirty years in charge of Radio Liberty's Belarusian Section in New York, and a monetary contribution toward the acquisition and processing of books and manuscripts dealing with Belarus.

On April 30, 2002 nine leaders of the Belarusian community met with Libraries staff in the Alexander Library to view the Zolak Papers and discuss the collection of books and records relating to the Belarusians. The collection will have a dual role: to preserve the memory of Belarusians' life experiences, and to acquire and make available books and periodicals that will support Rutgers' academic programs. Rutgers' library collections are open to the public and its books are available through Interlibrary Loan. We are especially interested in the diaries, letters, and organizational records of New Jersey Belarusians and their community organizations such as churches, cultural, and mutual benefit associations.

Rutgers welcomes volunteer and financial assistance toward the processing of these papers, many of which are in Belarusian Cyrillic characters. The university also teaches courses in East European culture, history, cinema, and politics, some of which also relate to the study of Belarus. In support of these academic programs the Rutgers University Libraries are seeking to establish an endowed fund that will provide annual income toward the purchase of books in East Slavic culture and history. *Rutgers University alumni* and others who wish to support these efforts may make contributions to the Rutgers University Foundation, Winants Hall, 7 College Ave., New Brunswick, NJ 08901-1261. Please be sure to indicate in a note or on your check that your donation is for the support of the Rutgers Libraries and their Belarusian collections.

If you would like to contribute toward these efforts, please contact Ron Becker, Head of Special Collections, e-mail: rbecker@rci.rutgers.edu, telephone 732/932-7006 about manuscript collections, Jim Niessen, World History Librarian, e-mail: niessen@rci.rutgers.edu, telephone 732/932-7129x136, about books, or either one about mixed collections. Both are in the Alexander Library, 169 College Avenue in New Brunswick, NJ 08901-1163. Inquiries are also welcome to Dr. Vitaut Kipel, President of the Belarusan Institute of Arts and Sciences, 1797 Buttonwood Avenue,Toms River, NJ 08755, Tel.: (732) 557-0094.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

Дарагія Суродзічы!
Паважаныя Чытачы!
Шчыра просім пераслаць
Вашую гадавую **Ахвяру**
на Выдавецкі Фонд газэты!